17 лютага 2017 | № 6 (520)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Каталонія рыхтуецца да паўстання

стар. 9



# Каму патрэбны дыялог

## Можа, проста правесці свабодныя выбары?



Сяргей ПУЛЬША

Нагодай зноў узгадаць старое слова «дыялог» стала сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з рэдактарам «Народнай Волі» Іосіфам Сярэдзічам. Старым «сябрам — ворагам» было пра што паразмаўляць цягам амаль дзвюх гадзінаў.

Сам Іосіф Паўлавіч даволі падрабязна распавёў, пра што яны размаўлялі з кіраўніком Беларусі ў сваёй калонцы ў «Народнай Волі».

«Усё часцей і часцей у выступленнях Лукашэнкі гучаць словы, што не за гарамі той дзень, калі яго прэзідэнцтва наблізіцца да завяршэння. Але змена ўлады павінна адбыцца не праз крывавы майдан, не праз грамадзянскую калатнечу і не праз страту нашага самага найвялікшага здабытку — Незалежнасці. Адчуваецца, ён хоча перадаць краіну ў другія рукі не разваленую, не са знішчанай эканомікай і жабрацкім дабрабытам людзей, а жыццядзейную, спакойную, суверэнную. Мірна, дэмакратычна, цывілізавана, а не праз барыкады і закалоты. Пагадзіцеся, іншай альтэрнатывы ў беларусаў няма. Трэба разам знайсці шляхі выхаду з цяжкай сітуацыі, якая склалася ў апошнія месяцы. І вось тут наша размова выйшла на канкрэтныя варыянты магчымага агульнанацыянальнага дыялогу», — напісаў Іосіф Сярэдзіч.

Зразумела, пасля Крыму пытанне незалежнасці і суверэнітэту дзяржавы набыло звышактуальнасць. Нават большасць апазіцыі зараз дзейнічае з аглядкай: ці не справакуе гэта Расію на «зялёных чалавечкаў»? Але не будзем таксама забывацца, што варыянты рознага кшталту «круглых сталоў» улады і апазіцыі ды «нацыянальных дыялогаў» агучваюцца не ўпершыню.

Дый сам Іосіф Сярэдзіч ужо агучваў ідэю дыялогу на прэс-канферэнцыі з Лукашэнкам у 2015-м. Тады нават былі перададзены прапановы ў Адміністрацыю прэзідэнта. Зараз Лукашэнка зноў «папрасіў больш дэталёва, магчыма, пісьмова, падрыхтаваць прапановы».

Варта таксама нагадаць, што напрыканцы 2015 года частка апазіцыянераў нечакана звярнулася да Еўрасаюза з просьбай паспрыяць дыялогу з уладай. Паводле іх меркавання, ЕС павінен быў паўплываць на Лукашэнку, каб перазагрузіць «круглы стол» паміж уладай і апазіцыяй пры пасярэдніцтве АБСЕ, закансерваваны ў 1999 годзе. Апроч буйнога скандалу, гэтая ініцыятыва наступстваў не мела. Дый згаданы «круглы стол — 1999» вынікаў не даў.

Дык якія ёсць падставы думаць, што чарговая спроба арганізацыі нацыянальнага дыялогу прывядзе да нейкай канкрэтыкі? Хіба толькі тое, што гэта абмяркоўвалася падзчас гутаркі «сам-насам». Пагадзіцеся, гэта даволі нетрывалы аргумент у параўнанні з сумнай гісторыяй усіх «дыялогаў».

Зразумела, што апазіцы, заклапочаная захаваннем незалежнасці, таксама не супраць дыялогу. Але каб гэта быў сапраўды дыялог, а не брыфінг аднаго Аляксандра Лукашэнкі. Напрыклад, былы кандыдат у прэзідэнты Мікола Статкевіч сказаў, што дыялог — гэта лепш, чым канфлікт, тым больш у сітуацыі, калі незалежнасць Беларусі апынулася перад пагрозай. Але не згодны браць удзел у імітацыі дыялогу.

Салідарны з ім старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч: «Я быў бы гатовы браць удзел у такім дыялогу ў любой форме.




> **Наўрад ці ў выніку свабодных і справядлівых выбараў паўстане нейкі «майдан» ці «калатнеча»**

Але гэта павінен быць сапраўдны дыялог. Гэта значыць, што з боку Аляксандра Лукашэнкі павінна быць палітычная воля і жаданне гэта зрабіць. Таму што прыйсці і паслухаць яго маналог — гэта ўсё ж такі не дыялог. Дыялог мае на ўвазе, што апаненты размаўляюць на роўных», — сказаў Янукевіч «Радыё Свабода».

З гэтага вынікае яшчэ адно пытанне: а дзеля чаго гэты дыялог у прынцыпе? Які ў яго павінен быць вынік? Якога кансэнсусу павінны дамагчыся «высокія перамоўныя бакі»?

Зыходзячы з тэксту Іосіфа Сярэдзіча, дыялог павінен быць той прыступкай, з якой Лукашэнка мірна, «не праз крывавы майдан і не праз грамадзянскую калатнечу», перадаў бы камусьці ўладу.

Выбачайце, але для гэтага зусім не патрэбны нейкі «круглы стол», нацыянальны дыялог ці нешта яшчэ. Для гэтага дастаткова правесці сумленныя і свабодныя выбары па стандартах АБСЕ з выкананнем усіх прылеглых да іх працэдур: свабода слова, свабода СМІ, свабода мірных сходаў і агітацыі, роўны доступ кандыдатаў да тэлебачання і гэтак далей. І наўрад ці ў выніку свабодных выбараў паўстане нейкі «майдан» ці «калатнеча». Яны, звычайна, паўстаюць, калі людзей падманваюць, несумленна падлічваючы іх галасы.

Будзем шчырыя: «круглы стол па прынцыпе Ярузельскага» патрэбны зараз не Сярэдзічу, а найперш Лукашэнку. Для таго, каб атрымаць нейкія гарантыі бяспекі ў выніку той самай змены ўлады. У другую чаргу — каб падзяліць з некім адказнасць за той тупік, у які ён завёў краіну. Але ў тым і справа, што эканамічны тупік беларускі кіраўнік, можа, і прагледае. А вось перадаваць уладу ў бліжэйшы час ён наўрад ці камусьці збярэцца.

# Разабрацца ў правакацыі супраць Жамчужнага

**У адным са сваіх лістоў да праваабаронцы Таццяны Равяка палітвязень Міхаіл Жамчужны ў некалькіх словах узгадаў пра інцыдэнт, які здарыўся з ім у папраўчай калоніі №14.**

«Згнагоды маёй заявы пра бяспечныя ўмовы ўтрымання, па інцыдэнту ў ноч пасля візіту адваката: мне іх ніхто не забяспечыў... Выклікаў толькі апаратыўнік, пацікавіўся: «Як справы?» і паведаміў, што старонніх на тэрыторыі папраўчай калоніі быць не магло. Але ж камера відэаназірання ўсё пісала...»

Відавочна, заснавальнік «Платформ Інавэйшн» пра гэтае здарэнне пісаў больш падрабязна ў ранейшым лісце, аднак карэспандэнцыя не дайшла.

Таццяна Равяка, што занепакоілася наконт бяспекі палітвязня, накіравала зварот да начальніка Упраўлення Дэпартамента выканання пакарання па Мінску і Мінскай вобласці, у якім паведаміла, што ў ноч з 23 на 24 студзеня 2017 года з М. Жамчужным адбыўся нейкі інцыдэнт, у выніку якога зняволены быў вымушаны звярнуцца з заявай аб бяспечных умовах утрымання:

«Сутнасць таго, што адбылося з М. Жамчужным, мне не вядомая, паколькі ліст ад 25 студзеня 2017 года, адрасаваны мне Жамчужным, у якім утрымлівалася інфармацыя аб гэтым інцыдэнце, мной не быў атрыманы. Аб канфіскацыі гэтага ліста з перапіскі Жамчужны адміністрацыяй калоніі інфармаваны не быў. У забеспячэнні бяспечных умоў утрымання М. Жамчужнаму было адмоўлена».

Праваабаронца просіць правесці праверку інцыдэнту, які адбыўся з М. Жамчужным у ноч з 23 на 24 студзеня 2017 года ў ПК-14, абавязаць адміністрацыю калоніі забяспечыць бяспечныя ўмовы ўтрымання, якія б не пагражалі ягонаму жыццю і здароўю, а таксама правесці праверку законнасці дзеянняў адміністрацыі ПК-14 па канфіскацыі карэспандэнцыі зняволенага і карэспандэнцыі, якая накіроўваецца гэтаму вязню.

Цягам бліжэйшага часу павінен адбыцца суд па змене па змене рэжыму ўтрымання Міхаілу Жамчужнаму: яму пагражае накіраванне ў турму тэрмінам на 3 гады.

Нагадаем, заснавальнік «Платформ Інавэйшн» Міхаіл Жамчужны ў ліпені 2015 года быў асуджаны Віцебскім абласным судом на 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. 23 кастрычніка судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда разгледзела касацыйную скаргу і прызначыла Жамчужнаму больш строгае пакаранне — шэсць з паловай гадоў пазбаўлення волі.

Ён быў прызнаны вінаватым у здзяйсненні злачынстваў, прадугледжаных арт. 376 (часткі 1 і 2), ч. 5 арт. 16, арт. 375 (частка 1) і арт. 431 (часткі 1 і 2): падбухторванні да наўмыснага разгалошвання звестак, якія складаюць службовую таямніцу; незаконным набыцці і збыце спецыяльнага тэхнічнага сродку, прызначанага для сакрэтнага атрымання інфармацыі, у тым ліку — паўторна; дачы хабару і дачы хабару паўторна.

Беларускімі праваабаронцамі Міхаіл Жамчужны прызнаны палітвязнем.

**spring96.org**

# Што рабіць з бежанцамі?

**У Брэсце адбыўся круглы стол па пытаннях бежанцаў. Ініцыятарам яго правядзення стала некамерцыйная арганізацыя «За свой горад».**

Удзельнікамі дыскусіі «Міграцыйныя плыні: выклікі сучаснасці» выступілі прадстаўнікі некамерцыйнай арганізацыі «Роўнасць і справядлівасць», Беларускага Хельсінкскага камітэта, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), Інстытута прагназавання і ўрэгулявання палітычных канфліктаў (РФ), незалежныя эксперты і журналісты рэгіянальных выданняў.

«Тэма бежанцаў — адна з самых актуальных і сучасных праблем многіх краін і цэлых рэгіёнаў. Не абыходзіць яна бокам, як у цэлым Беларусь, так і брэсцкі рэгіён. Транзітныя мігранты з Каўказа, мігранты з усходу Украіны, запланаванае будаўніцтва двух міграцыйных цэнтраў — усё гэта новыя выклікі для нашага рэгіёну. Таму на круглым стале мы паспрабавалі даць аб'ектыўную ацэнку сучаснай сітуацыі ў галіне міграцыйных патокаў, прааналізавалі пагрозы, а таксама выпрацавалі шэраг прапаноў, якія меры павінна прымаць дзяржава і грамадскасць для мінімізацыі наступстваў гэтых пагроз», — паведаміў кіраўнік арганізацыі «За свой горад» Ігар Маслоўскі.

Дырэктар НКА «Інстытут прагназавання і ўрэгулявання палітычных канфліктаў» (РФ) Мікалай Нікалаеў адзначыў, што, паводле ацэнак шэрагу экспертаў, у Расіі 10–12 мільёнаў нелегальных мігрантаў. Адкрытая мяжа з Беларуссю з'яўляецца пагрозай для нашай краіны з-за некантралюемага патоку нелегальных мігрантаў.

Асобна Нікалаеў спыніўся на тэме мігрантаў з Чачэнскай Рэспублікі, для якіх Брэст стаў транзітным горадам. Паводле яго слоў, неабходна ў першую чаргу прымаць меры і выпраўляць сітуацыю ў самой РФ.

Эксперт у галіне міграцыйнага права Сяргей Магонаў выступіў з дакладам «Міграцыйнае заканадаўства Рэспублікі Беларусь, практыка прымянення». Ён таксама падрабязна спыніўся на статыстычнай сітуацыі, звязанай з колькасцю мігрантаў у Беларусі і іх статусам.

**Паводле інфармацыі арганізацыі «За свой горад»**

# Расследаваць справу Захаранкі

**Маці зніклага 17 гадоў таму палітыка Юрыя Захаранкі звярнулася да Аляксандра Лукашэнкі з адкрытым лістом.**



Падштурхнулі яе да гэтага словы Лукашэнкі падчас «Вялікай размовы»: «Па-мойму, Віця Ганчар або нехта яшчэ былі сфатаграфаваныя ў Германіі. Мы за гэта ўхапіліся і пачалі тарпедаваць немцаў: адкуль гэтыя фатаграфіі? Дзе? Адказу мы да гэтага часу не атрымалі...»

Ульяна Захаранка прапануе кіраўніку Беларусі свой план расследавання гучных спраў: «З вашых слоў вынікае, што вы валодаеце інфармацыяй або фатаграфіямі названых вамі асоб. Звяртаюся да вас з просьбай прадставіць мне, а таксама следчым органам гэтую інфармацыю, фатаграфіі і крыніцу іх атрымання».

Маці зніклага палітыка паведамляе Лукашэнку аб канкрэтных асобах, якія могуць праліць святло на ход расследавання: «Неабходна дапытаць наступных асоб: У. Шэймана, Ю. Сівакова, Д. Паўлічэнку, Н. Васільчанку, Н. Лапацка, А. Бажэлку, В. Мацкевіча, М. Снегіра, якія валодаюць інфармацыяй аб знікненнях. Таксама неабходна дапытаць афіцэраў і ваеннаслужачых Мекіянца, Балыніна, Будзько, Кокліна, Мурашку і іншых супрацоўнікаў, якія, магчыма, прымалі ўдзел у выкраданні майго сына, а таксама праверыць на дачыненне да яго выкрадання В. Ігнатовіча, А. Гуза, М. Маліка і С. Саўшкіна.

Мяркую, што вы валодаеце ўсімі паўнамоцтвамі для паскарэння папярэдняга расследавання і перадачы крымінальнай справы ў суд».

У лісце Ульяна Рыгораўна закранае яшчэ адно не вырашанае судовымі органамі пытанне — прызнанне яе сына памерлым: «Мне 93 гады. 17 гадоў я, з'яўляючыся пенсіянеркай, адчуваю матэрыяльныя цяжкасці, калі аплачваю ўтрыманне маёмасці сына. Пры гэтым я не магу ні распарадзіцца гэтай маёмасцю, ні звярнуцца па пенсію з нагоды страты карміцеля, паколькі для вырашэння гэтых пытанняў мне неабходна рашэнне суда. Суды, аж да Вярхоўнага, адмовілі мне ў задавальненні маёй заявы аб прызнанні Юрыя Захаранкі памерлым.

Пры гэтым аналагічныя заявы аб прызнанні без вестак адсутнымі і памерлымі Святланы Завадскай, Ірыны Красоўскай, Зінаіды Ганчар — жонак зніклых палітыкаў, суды Фрунзенскага і Савецкага раёнаў Мінска разгледзелі па сутнасці і вынеслі станоўчыя рашэнні.

Прашу вашага ўмяшання ў сітуацыю з грамадзянскай справай аб прызнанні майго сына памерлым. Следчыя органы краіны за 17 гадоў не ўстанавілі асобаў, вінаватых у яговым выкраданні і, верагодна, забойстве. Магчыма, вы зрушыце з мёртвай кропкі хоць бы гэтую грамадзянскую справу».

Свой ліст Лукашэнку Ульяна Захаранка суправаджае зваротамі ў Следчы Камітэт і Генеральную пракуратуру і адказамі на іх.

Усе гэтыя 17 гадоў Ульяна Захаранка, яе нявестка Вольга звярталіся ў следчыя органы з просьбамі ўстанавіць асобаў, вінаватых у знікненні Юрыя Захаранкі і перадаць справу ў суд. Дзеянні следства зводзяцца да чарговага прадаўжэння тэрміну папярэдняга расследавання на тры месяцы. Што робіць следчы кожныя тры месяцы, маці палітыка да гэтага часу ніхто не даў адказу. У ходзе ўзаемадзеяння са следствам даходзіла да відавочнага парушэння закона, калі маці зніклага экс-міністра МУС адмаўляліся прызнаць пацярпелай па справе.

**Паводле інфармацыі Беларускага дакументацыйнага цэнтру**

# Севярынец аднёс «павесткі дармаедам»

*Алесь КІРКЕВІЧ*

**Адзін з лідараў БХД Павел Севярынец схадзіў у Адміністрацыю прэзідэнта з сімвалічным зваротам ды чарговы раз заклікаў беларусаў пратэставаць супраць Дэкрэта №3.**



Флэшмоб Севярынца палягаў у наступным: аднесці ў Адміністрацыю прэзідэнта сімвалічныя «лісты шчасця» для Лукашэнкі і яго набліжаных асобаў, а таксама перадаць скрыншот са старонкі ў «Аднакласніках» тэлеканала Белсат, дзе супраць «дармаедскага» Дэкрэту № 3 выказалася каля 180 тысяч чалавек.

Зайсці ў сам будынак Адміністрацыі атрымалася не адразу. Каля галоўнага ўвахода Севярынца і журналістаў сустрэў ахоўнік, абвясціўшы, што дзверы зачыненыя. Але палітык вырашыў не верыць службоўцу на слова і праўдзіць уласнаручна. Далей усё выглядала камічна: каля хвіліны Севярынец цягнуў за ручку вялізных дзвярэй і грукаўся, гэтым часам іншы ахоўнік... наўпрост трымаў дзверы знутры.

Урэшце ахоўнік, які трымаў клямку, выйшаў да Севярынца і патлумачыў, што са зваротамі трэба ісці ў іншыя дзверы — у прэзідэнцкую прыёмную па іншы бок будынка. Уся калона, Севярынец ды журналісты, прайшлі туды. Паўла Канстанцінавіча ўрэшце пусцілі ў будынак, разам з ім зайшлі трое журналістаў, каб правесці ў чарзе прыёмнай каля 40–50 хвілін.

На выхадзе Севярынец абвясціў, што зварот прыняты, «павесткі» перададзеныя.

«"Павесткі" былі перададзеныя сапраўдным дармаедам — Лукашэнку, Качанавай, Кабякову, якія сядзяць на карку беларускага народа ўжо больш за 20 гадоў, — адзначыў палітык. — Я заклікаю беларусаў пратэставаць і выходзіць на маршы 17 лютага і 15 сакавіка, патрабуючы адмены Дэкрэту №3 і адстаўкі сённяшняй улады».

Пакуль Севярынец быў у прыёмнай, дрэнна стала ветэрану пратэстных акцыяў спадарыні Ніне Багінскай. Яе спачатку завялі ў будынак, а пасля выклікалі хуткую дапамогу.

Да таго часу, як хуткая прыехала, спадарыня Багінская ачуняла. Дактары прапанавалі ёй шпіталізацыю, аднак ад яе актывістка адмовілася і спакойна сышла дадому.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Долар, гуд бай?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Падобна на тое, што знешнеэканамічная сітуацыя сапраўды зробіць больш рэальнай мару кіраўніка Беларусі «ўсім па 500». Але ці будзе нам з гэтага карысць?**



Фота www.belaruspartisan.org

Справа ў тым, што долар у свеце працягвае таннець. З прыходам да ўлады ў ЗША непрадказальнага Дональда Трампа на яго сталі ўплываць нават «персанальныя» фактары. Напрыклад, шырока вядома, што дарадца прэзідэнта ЗША Дональда Трампа па нацыянальнай бяспецы Майкл Флін падаў у адстаўку з-за сувязі са службовымі асобамі Расіі. З-за гэтай навіны на біржах долар знізіўся на 0,3%. У тым ліку саслаб ён і ў Расіі. І следам за Расіяй, адпаведна, тыя ж працэсы прыйшлі ў Беларусі. Упершыню за доўгі час амерыканскі рубель упаў ніжэй за 1,9 беларускіх (1,88 на таргах 14 лютага).

Гэта дало падставы эканамістам крыху пакпіць са знакамітага абяцання Аляксандра Лукашэнкі «ўсім па 500». Маўляў, калі Трамп і надалей працягне «рабіць Амерыку вялікай», курс долара зваліцца да 1,4 рубля за долар. І тады той «сярэдні заробак» у 700 рублёў, які малюе Белстат, сапраўдыператворыцца ў 500 долараў у эквіваленце.

Дадаў свае «пяць капеек» у гэтую справу і Нацыянальны банк. Галоўны рэгулятар краіны апрылюдніў чарговую праграму «дэдаларызацыі эканомікі». Як звычайна, прапануецца скарачэнне выкарыстання замежнай валюты ў разліках і пры выплаце збораў, пошлін і іншых плацяжоў, а таксама ў якасці эквіваленту меры кошту пры фармаванні тарыфаў, ставак і цэн.

На думку намесніка старшыні праўлення Нацбанка Сяргея Калечыца, «запаволенне інфляцыйных працэсаў, больш высокая даходнасць па дэпазітах у нацыянальнай валюце ў параўнанні з інвалютнымі, стабільная сітуацыя на валютным рынку, якая сведчыць аб зніжэнні валютных рызык у краіне, фармуюць для гэтага спрыяльны фон». І, можа, нават глебу для таго, каб «долараві эквівалент» увогуле знік з нашага ўжытку.

Праўда, Нацбанк прызнае, што перамагчы долар будзе няпроста, бо ён займае вялікае месца ў фінансавай структуры краіны. Напрыклад, доля актываў дзейных беларускіх банкаў у замежнай валюце складае 61,7%. Па стане на 1 студзеня 2017 года 76,3% ад усіх дэпазітаў насельніцтва ў банках — валютныя. З гэтым будуць змагацца добраахвотна-прымусова. У якасці аднаго з захадаў дэдаларызацыі Нацбанк прапануе паслядоўнае зніжэнне працэнтных ставак па ўкладах (дэпазітах) фізічных і юрыдычных асоб у валюце.

Ці кінуцца нашы грамадзяне захоўваць свае зберажэнні ў родных рублях? Наўрад ці. Па-першае, вялікае пытанне ў самой сістэме ўкладаў. З увядзеннем «адкліканых» і «неадклікных» дэпазітаў стаўкі «адкліканых» і валютных укладаў амаль зраўняліся. Па-другое, галоўным фактарам даларызацыі эканомікі з'яўляецца не памер працэнтаў па дэпазітах, а давер да нацыянальнай валюты. Пасля шматлікіх дэвальвацый і дэнамінацый давер — ніякі.

Больш за тое, наша эканоміка шчыльна прывязаная да эканомікі Расіі, і любы «чых» у РФ выклікае ліхаманку ў РБ. А раптам у «старэйшага брата» пачнуцца калізіі? Напрыклад, чакаецца, што іх рэзервовы фонд будзе поўнасцю вычарпаны ў гэтым годзе. За дэвальвацыяй расійскага рубля непазбежна настане дэвальвацыя беларускага.

І па-трэцяе, гэта наўрад ці выгадна самой уладзе. Народныя зберажэнні — зараз ці не

> **Галоўным фактарам даларызацыі эканомікі з'яўляецца не памер працэнтаў па дэпазітах, а давер да нацыянальнай валюты. Пасля шматлікіх дэвальвацый і дэнамінацый гэты давер — ніякі**

самы надзейны сродак атрымання замежнай валюты для разліку па знешніх пазыках. За мінулы год грамадзяне прадалі рэкордныя 2 мільярды долараў, і, гледзячы на 76,3% валютных укладаў, долары ў іх яшчэ не скончыліся. Дык ці варта прыкрываць такі «рэзерв», які ў выніку неабходнасці можна выцягнуць рознымі сродкамі?

З Расіяй увогуле ўсё складана. Пасяджэнне Саўміна так званай саюзнай дзяржавы, на якім павінны былі сустрэцца Лукашэнка і Пуцін, з-за «несупадзення працоўных графікаў кіраўнікоў» з 9 лютага было перанесена на нявызначаны тэрмін. У той жа час у мінулую пятніцу віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка безвынікова злётаў у Маскву — не дамовіліся ні па газе, ні па нафце. Вядома, што кантракт з «Раснафтай» на 2017 год прадугледжвае пастаўкі ў Беларусь толькі 10,2 мільёна тон, а Беларусь патрабуе мінімум 24 мільёны тон нафты на год.

Ніяк не ўтаймуецца і Расельгаснагляд. Ён забараніў пастаўляць прадукцыю ў РФ яшчэ некалькім беларускім прадпрыемствам. Пад раздачу трапіў «Жлобінскі мясакамбінат», у дачыненні да якога ўведзеныя часовыя абмежаванні. Рэжым узмоцненага лабараторнага кантролю нададзены для прадпрыемстваў «Дубраўскі бройлер», «Камароўка», «Смалявічы Бройлер», «Стаўбцоўскі мясакансервавы камбінат». Акрамя таго, расійскае ведамства ўвяло дадатковыя патрабаванні пры ўвозе з Беларусі прадукцыі, што нясе рызыку распаўсюджвання афрыканскай чумы свінняў.

Цікава тое, што гэтыя абмежаванні ўводзяцца ў той, час, як расійскія спецыялісты па санітарным кантролі адмовіліся ад візіту ў Беларусь з-за асцярогаў «правакацыйных дзеянняў з беларускага боку», паведаміла прэс-служба расійскага ведамства.

Візіт спецыялістаў службы ў Беларусь быў запланаваны на люты. Пасля заявы Лукашэнкі аб крымінальнай справе ў дачыненні да Данкверта і паведамленняў пра тое, што МУС РБ узяўся выконваць гэтае распараджэнне, інспектары Расельгаснагляду ўзгадалі лёс Баўмгертнера.

І яшчэ адна цікавая навіна. «Газпром» упершыню за шмат гадоў знізіў узнагароджанне чальцам праўлення карпарацыі, паведамляе расійская газета «Ведамасці». Паводле інфармацыі выдання, па выніках 2016 года агульная сума выплат праўленню знізілася на 9,4% да 2,448 мільярда расійскіх рублёў, што вынікае са справаздачы кампаніі. Прадстаўнік «Газпрома» не патлумачыў, з чым звязана зніжэнне выплат.

Гэта азначае, што ў Расіі сапраўды заканчваюцца грошы, калі ўжо сталі эканоміць на «самым святым». Улічваючы нашу звышзалежнасць ад Расіі, пра якую дэдаларызацыю і стабільнасць беларускага рубля можа ісці гаворка?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Максім Філіповіч

**Раней мала каму вядомы гамяльчук-«дармаед» стаў зоркай усёй краіны.**



Відэа Максіма Філіповіча супраць дэкрэта аб лайдацтве пабіла ўсе рэкорды папулярнасці ў байнэце і набліжаецца да сусветнага ўзроўню — яго прагледзелі больш за 1,6 міліёна (!) чалавек.

Максім Філіповіч страціў працу ў 2015 годзе. На прадпрыемстве «Сейсматэхніка», дзе ён працаваў кіроўцам, яму не працягнулі кантракт без тлумачэння прычын. Пасля гэтага сталай працы ў яго не было, і ён аптымістычна падаўся ў відэаблогеры. Стаў здымаць сюжэты пра «жыццё як яно ёсць». Яго свежае відэа, размешчанае ў інтэрнэце 11 лютага, назбірала больш 1,6 мільёна праглядаў, больш пяцідзесяці шасці тысяч «падабаек», амаль шэсць тысяч перапостаў і звыш сямі тысяч каментароў.

Відэа цалкам няхітрае — ні прымочак, ні эфектаў, ніякіх асаблівых штучак. Чалавек папросту кажа ў камеру пра тое, што накіпела.

І, мяркуючы па рэзанансе, накіпела далёка не ў «некалькіх тысяч дармаедаў», а ў значна большай колькасці людзей.



## Валянцін Сукала

**Старшыня Вярхоўнага суда ў газеце «СБ Беларусь сегодня» абвясціў пра тое, што судова-прававая рэформа ў краіне завершана.**

Па яго словах, «знойдзена аптымальная мадэль беларускай сістэмы правасуддзя. Яна досыць рацыянальная, эканамічная, самадастатковая і сучасная. Яна цалкам аддзеленая ад органаў выканаўчай улады. Абсалютна адпавядае адміністрацыйна-тэрытарыяльнаму падзелу нашай краіны, зразумелая і даступная для людзей».

У той жа час Сукала адкінуў вынікі інтэрнэт-апытання на сайце Вярхоўнага суда, згодна з якімі большасць беларусаў не давяраюць айчыннай сістэме правасуддзя. Маўляў, інтэрнэт-апытанне за кароткі перыяд нельга выдаваць за канцавы вынік даследавання, а на самай справе судам давярае 61% насельніцтва. Абуральныя выпадкі, калі людзі не могуць у нашых судах даказаць сваю невінаватасць, Сукала таксама праігнараваў.

Той факт, што 40% беларускіх суддзяў маюць досвед працы менш за тры гады (то бок існуе вялікая цякучка кадраў), Сукала лічыць нават плюсам — маўляў, маладыя суддзі больш адказныя ў прыняцці рашэнняў.

## Віталь Гуркоў

**Саліст гурта «Brutto» і 11-разовы чэмпіён свету па тайскім боксе вяртаецца ў беларускую зборную. У Мінспорце нарэшце ўцямілі, што без яго немагчыма правесці ў Мінску чэмпіянат свету па муай-тай, які павінен адбыцца ў сталіцы з 3 па 12 мая.**



Як паведаміў Гуркоў «Еўрарадыё», сам ён ніякіх захадаў да свайго вяртання ў зборную не прымаў. Па яго словах, Міністр спорту прызначыў яму сустрэчу.

«Сэнс размовы быў такі: «Вось, хатні чэмпіянат свету, мы хочам, каб ты прадстаўляў краіну на гэтых спаборніцтвах, а табе ж трэба падрыхтавацца. А як ты будзеш рыхтавацца — грошы збірадь на «Талацэ»? (маецца на ўвазе вядомы выпадак, калі для адпраўкі Гуркова на Чэмпіянат свету ў Швецы ў Мінспорта «не знайшлося грошай», і беларусы праз платформу «Талака» сабралі яму патрэбную суму за дзень. — НЧ) Мы запрашаем цябе на працу, і ў цябе ўсё будзе: медыцынскае забеспячэнне, экіпіроўка — мы цябе падрыхтуем, зробім усё для паспяховага выступлення. Згодны, будзеш выступаць?» Я, вядома, згодны, сам таго ж хачу — выступаць у Мінску на хатнім чэмпіянаце свету. На тым пацісналі адзін адпаму рукі і дамовіліся», — паведаміў Гуркоў.

Атрымліваецца, што Гуркова цалкам аднаўляюць у спорце. Прычым, па словах спартоўца, перад ім не ставілі ніякіх «палітычных» умоваў, кшталту спыніць выступы з гуртом «Brutto», адмовіцца ад выкарыстання нацыянальнай сімволікі ці нейкіх іншых.

«Ніякіх умоў мне не ставілі, а я сябе вяду і буду весці гэтак жа, як і раней. Мае перакананні і мой унутраны свет ніяк не змяніліся», — запэўніў чэмпіён.

# Абыякавасць — галоўная праблема адукацыі



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Да разгляду ў Палаце прадстаўнікоў рыхтуецца праект новага Кодэкса аб адукацыі — адзін з самых спрэчных дзяржаўных дакументаў апошняга часу. Незалежныя эксперты лічаць, што афіцыйны праект кодэкса не ў стане вырашыць асноўныя праблемы сферы адукацыі ў нашай краіне.**

У гэтым годзе люты адметны тым, што розныя грамадскія ды палітычныя арганізацыі — ад АГП да БХД — ладзяць свае абмеркаванні праекту новага Кодэкса аб адукацыі. На гэтыя сустрэчы збіраюцца самыя розныя эксперты, але ж высновы, да якіх яны прыходзяць, — прыблізна аднолькавыя. А менавіта: у сваім цяперашнім выглядзе кодэкс, калі ён будзе прыняты, не зменіць агульную сітуацыю з адукацыяй — хаця б таму, што яна адлюстроўвае агульны гаротны стан грамадства. Інакш кажучы, беларуская адукацыя пакутуе на тыя ж хваробы, што і ўся Беларусь — гэта адсутнасць ініцыятывы, адвечны недахоп грошай і пры тым — нежаданне, негатоўнасць нешта змяняць вакол сябе і змяняцца самой.

### Агульная бяда — абыякавасць

Па сутнасці, усе эксперты рознымі словамі апісваюць адну і тую ж праблему беларускай адукацыі — абыякавасць. Так, экс-прарэктар БДУ Анатоль Паўлаў канстатуе, што школьнікі папросту не зацікаўленыя ў атрыманні адукацыі: «Яны сядзяць на ўроках, і ім усё абыякава. Мне ўжо ў 2000 годзе скардзіліся, што ў ВНУ прыходзяць усё больш слабыя выпускнікі школ. У 1990-х было лепш — дзеці ўсё ж такі з цікавасцю ставіліся да вучобы».

Па-свойму тлумачыць абыякавасць школьнікаў лідарка маладых хрысціянскіх дэмакратаў Марына Хоміч, якая сама працавала настаўніцай беларускай мовы ў школе. Па яе словах, праблема не ў тым, што дзеці не зацікаўленыя, а ў тым, што ў педінстытуты ідуць нематываваныя маладыя людзі, і такія ж атрымліваюцца настаўнікі. Няма зацікаўленасці ў настаўнікаў (ім абыякавы вынік) — няма яе і ў школьнікаў. У настаўнікі ідуць тыя, хто не збіраецца далей працаваць настаўнікам пасля двухгадовай адпрацоўкі, але ў каго бракуе здольнасцяў паступіць кудысьці яшчэ.

Анатоль Паўлаў з гэтым цалкам згодны і ўказвае на нізкія заробкі ў галіне як адукацыі, так і навукі: «Ацэнка працы педагога (яго сённяшні заробак) — гэта бомба, закладзеная пад нашу дзяржаву. Вось прыклад з жыцця. Два вучні пайшлі ў першы клас — адзін вучыўся, другі ў носе калупаў. Пасля школы першы скончыў ВНУ, стаў навукоўцам. Другі пайшоў служыць у АМАП. У выніку сёння гэты навуковец атрымлівае 370 рублёў, а амапавец — 800. Які стымул вучыцца?» Па яго словах, уся матывацыя педагогаў сярэдняй школы — гэта, у большасці сваёй, жанчыны сярэдніх гадоў і старэйшага веку, — два месяцы летняга адпачынку. «Гэта не мае словы, гэта самі школьныя настаўнікі мне кажуць — маўляў, праца такая, што можна ўлетку два месяцы на дачы капацца, а сысці ўсё роўна няма куды», — рэзюмуе Паўлаў.

На абыякавасць — з боку ўжо студэнтаў і выкладчыкаў ВНУ — указвае і выкладчык Інстытута замежных моваў Вячаслаў Бабровіч. «Нічога не змянілася за апошнія 10–15 гадоў. Ідзе дэвальвацыя дыпломаў. Куды ні плюнь — патрапіш у чалавека з дыпломам, але з сумнеўнай якасцю адукацыі. У студэнта не пытаюць яго меркаванне аб выкладчыках, лічаць, што ён не здольны даць ацэнку. Не арыентуецца сістэма ні на студэнта, ні на выкладчыка. І выкладчыкі дэградуюць — яны арыентуюцца на ўзровень студэнтаў, які ўсё зніжаецца», — гаворыць Бабровіч.



Па яго словах, інстытуцкія выкладчыкі не абураюцца тым, што адбываецца, бо апошнія дзесяцігоддзі праводзілася палітыка іх атамізавання. «Мы адзін з адным не маем зносінаў. Мы нават Новы год перасталі разам адзначаць. Няма магчымасці нешта абгаварыць, прапанаваць, — канстатуе Бабровіч. — Пытанне акадэмічных свабодаў і каштоўнасцяў варта было б вылучаць ад самага пачатку. Але сёння ўсё наадварот: ВНУ Беларусі пабудаваныя па мадэлі дзяржавы — як удзельнае княства. Рэктар паводзіць сябе як феадал».

Вынік усеагульнай абыякавасці відавочны: па словах прафесара Уладзіміра Дунаева (былы першы прарэктар ЕГУ, а цяпер — старшыня незалежнага беларускага Балонскага камітэта), сёння Беларусь — чэмпіён рэгіёна па дэфіцыце кампетэнцыяў у выпускнікоў ВНУ. Сістэма адукацыі не арыентаваная на рынак працы. Як сведчаць супрацоўнікі кадравых агенцтваў, толькі ў 7% учорашніх студэнтаў веды і навыкі адпавядаюць патрабаванням працадаўцаў. Пры гэтым Беларусь — амаль чэмпіён свету па даступнасці вышэйшай адукацыі. «У нас абсалютна неверагодная колькасць моладзі трапляе ў вышэйшую школу. Цяпер толькі трохі менш стала, з-за дэмаграфічных праблем. Але ўсё роўна, згодна са статыстыкай, 95% выпускнікоў школ паступае ў ВНУ і ССУЗы, — кажа Дунаеў. — Гэта фантастычны паказчык! Зразумела, што пры такой масавасці немагчыма забяспечыць дастатковую якасць адукацыі».




### Што памяняе новы Кодэкс?

З тым, што праект новага Кодэкса аб адукацыі недасканалы, згодныя ўсе эксперты, з якімі давялося размаўляць журналісту «Новага Часу». Больш таго, паводле іх меркавання, прынятыя некалі раней дакументы былі больш арыентаваныя на развіццё адукацыі, чым новы кодэкс. «Не трэба пісаць новы кодэкс, трэба вярнуцца да Закона аб адукацыі 1991 або 2000 гадоў. Кодэкс у новым выглядзе проста не патрэбны, у ім не прапісаныя найважнейшыя рэчы. Затое паказана, як размяркоўваюцца тэпцікі ў інтэрнаце. У кодэксе гаворыцца, што ўсю палітыку адукацыі вызначае прэзідэнт, а парламент у кодэксе нават не згадваецца», — апісаў сітуацыю Уладзімір Дунаеў.

«Ва ўсім свеце адукацыя імкнецца да свецкасці, а наша адукацыя імкнецца вярнуцца да савецкасці. І паводзіны новага міністра адукацыі таксама аб гэтым сведчаць, — упэўненая Марына Хоміч. — У сённяшніх умовах, калі законы не дзейнічаюць, нават самы ідэальна напісаны кодэкс нічога не зменіць. І наогул, хто з настаўнікаў рэальна чытаў Кодэкс аб адукацыі?»

Згодзен з вызначальнай роляй «чалавечага фактару» і Анатоль Паўлаў: «Дакумент — кодэкс — можа быць выдатным, але выконваюць яго людзі. Гэта нашы чыноўнікі. Што трэба зрабіць? Выканаць тое, што прымалася раней. Яшчэ ў 1991 годзе ў Законе аб адукацыі выразна прывязвалася зарплата выкладчыка да сярэдняй зарплаты па прамысловасці. А выдаткі краіны на адукацыю павінны былі складаць 10% ад ВУП. Але гэта ніколі не выконвалася. Калі я не ўбачу, што фінансаванне сістэмы адукацыі, як і заробкаў выкладчыкаў, павялічылася ў тры разы — значыць, прыняцце новага кодэксу не мае сэнсу».

У сваю чаргу, Уладзімір Дунаеў нагадвае: змены ў Кодэкс аб адукацыі важныя тым, што прапісваюць уваходжанне Беларусі ў Балонскі працэс. А гэта сёння адзіная ўзгодненая з Еўропай праграма рэформаў. «Гэта вельмі добры дакумент, у ім 7 раздзелаў. І ён датычыцца не толькі Міністэрства адукацыі. Ёсць прасоўванне ў частцы кампетэнтнаснага падыходу, — растлумачвае Дунаеў. — Але праблема ў тым, што нашы законы — не прамога дзеяння, яны спасылаюцца на падзаконныя акты і на распараджэнні прэзідэнта. Такая беззмястоўнасць Кодэкса аб адукацыі абясцэньвае яго. Каб выкладчык не баяўся начальству слова сказаць, ёсць толькі адзін міжнародна прызнаны сродак — пажыццёвы кантракт. Але ў нас такога і блізка няма, у нас кантракт падпісваецца на год або на два. У Кодэксе аб адукацыі таксама і слова няма аб тым, каб спыніць гэта».

Як паказвае кіраўнік незалежнага беларускага Балонскага камітэта, у нейкі момант найноўшай гісторыі Беларусі фінансаванне адукацыі складала 6,2% ВУП, але з тых часоў гэтая лічба не дасягалася ні разу. Хоць 10% — гэта нармальная міжнародная норма выдаткаў. Хай нават далёка не ўсе краіны Еўропы гэта выконваюць, але ў іх і агульны аб'ём ВУП прынцыпова іншы.

Акрамя ўласна фінансавання ёсць яшчэ пытанне нерацыянальнага выдаткоўвання сродкаў. Напрыклад, у сярэдняй школе Беларусі ў два разы больш настаўнікаў, чым патрабуецца па еўрапейскіх нормах. Пры гэтым калі раней, напрыклад, у Мінску было па 20 чалавек у класе, то зараз — па 35. Але адначасова ў вёсках дастаткова некамплектных школаў, якія нельга зачыніць. Аднак і ў іх настаўнікі занятыя — калі не выкладаннем, то запаўненнем бясконцых папераў.

Галоўная выснова: ніякі кодэкс сам па сабе не здольны памяняць абыякавае стаўленне з боку ўсіх удзельнікаў адукацыйнага працэсу. Па-іншаму паставіцца да адукацыі павінна першым чынам грамадства — і прымусіць дзяржаву змяніць сваё стаўленне.

# Справа «касінера ў пагонах», альбо Як знішчаюць патрыётаў

Алесь КІРКЕВІЧ

**Што і хто стаіць за пасадкай Юркойця? Ці можна гэта назваць часткай схемы па зачыстцы нацыяналістаў у пагонах, не вычышчаных у 1990-я і 2000-я? А можа гэта лакальныя разборкі ў сукупнасці з амбіцыямі і перасцярогамі асобных астравецкіх чэкістаў?**

У сакавіку будзе два гады, як за кратамі знаходзіцца патрыёт, краязнавец ды ўзорны супрацоўнік Мытнага камітэта Алесь Юркойць. Напрыканцы снежня 2016-га разгляд справы быў прыпынены праз экспертызу, але ў лютым павінен аднавіцца.



**Алесь Юркойць.** Фота Ганны Бабіцкай

Пра гучную справу астравецкіх мытнікаў, па якой праходзяць дзясяткі людзей, пісалі ўжо багата. Як агулам, так і персанальна пра Алеся Юркойця, старшага інспектара пераходу Каменны Лог, які разам з іншымі трапіў у жорны судовай сістэмы. Зараз, калі на даляглядзе ўжо бачны фініш, а менавіта вырашальнае судовае пасяджэнне, можна расставіць некаторыя акцэнты.

### «Без ягонай цанаваўскай падачы не абышлося»

Варта згадаць, што Алесь Юркойць спачатку праходзіў па справе як сведка. Яго неаднаразова выклікалі ў раённае ўпраўленне КДБ на допыты. Чарговым разам, у сакавіку 2015-га, калі Алесь вяртаўся з допыту дадому, яму патэлефанаваў следчы, маўляў, не сыходзь нікуды. У хуткім часе пад'ехала машына, Алеся затрымалі.

З Астраўца ў Мінск, а дакладней у сумнавядомае СІЗА КДБ («Амерыканка»), Юркойця суправаджаў персанальна галоўны камітэтчык Астраўца. Усю дарогу паміж імі трывала размова, якую Алесь пасля дэталёва апісаў у лісце на волю:

«...Афіцыйна зарубіла ўсё кантора ў асобе Аляксандра Міхайлавіча Сухоцкага (размова пра Фэст касінераў, які меў ладзіць Алесь. — НЧ), які вось зусім нядаўна, як мне перадалі, пайшоў на павышэнне кудысьці. (...) Гэны Міхалыч брутальна забараняў любое іншадумства, надта баяўся, каб ягонай кар'еры не пашкодзіла. Ён жа персанальна на сваім асабістым самаходзе мяне апошнім разам у Менск прывёз. Вось пра ўсе гэтыя мерапрыемствы мы з ім большую частку дарогі і прагаварылі.

А побач сядзелі два яго маладыя калегі і толькі вачыма клыпалі, не маглі зразумець, каго і навошта яны вязуць у суперстудню алькатрасаўскую («Амерыканка». — НЧ). Ён жа са сваімі менскімі калегамі абодва апошнія дні майго тагасветнага жыцця ўвесь час стэлефаноўваўся, пакуль я сядзеў у суровых кабінетах з іншымі сокаламі. Таму без ягонай цанаваўскай падачы не абышлося».

### Фэст касінераў і крытыка АЭС

Цікава, чаму сярод дзясяткаў затрыманых мытнікаў такая ўвага з боку камітэтчыкаў была нададзеная менавіта Юркойцю? Усё ўстае на свае месцы, калі разбірацца, што Алесь рабіў для Астравеччыны, будучы на волі. Найбольш вядомы прыклад — гэта гісторыя з памятным крыжам паўстанцам 1863 года, які ён разам з іншымі актывістамі ўсталяваў у вёсцы Слабодка на 150-годдзе пачатку Паўстання Каліноўскага.

Далей, у тым жа лісце, прыведзеным вышэй, Юркойць піша:

«...І крыж знесці менавіта ён (Сухоцкі. — НЧ) прыняў рашэнне, сам мне па дарозе пра гэта сказаў. Героя трэба ведаць у твар, вось я дакладна ведаю галоўнага героя, якога проста ўводзіла ў шал, калі нехта яго не баяўся».

Алесь Юркойць сапраўды нічога не баяўся ды не меў звычкі трымаць язык за зубамі, калі справа тычылася прынцыповых рэчаў. Мала таго, што ён — чалавек у пагонах — рыхтаваў у 2014-м Фэст касінераў, што ўжо гучыць неверагодна, дык яшчэ і выказваўся з крытыкай пабудовы АЭС. Выказваўся і як краязнаўца, бо Астравеччына — гэта Віленскі край, пярліна Беларусі, і як географ, адшукаўшы інфармацыю пра землятрус, зафіксаваны ў гэтых мясцінах каля 100 гадоў таму.

Калі вяртацца да Фэсту касінераў, то яго правядзенне сапраўды сарвалася ў апошні момант. У 2013-м Алесь правёў паэтычны слэм на возеры Каймiна — традыцыйным месцы адпачынку мясцовых жыхароў. Усё было легальна, прысутнічалі як прадстаўнікі дзяржустановаў, так і супрацоўнікі выязднога гандлю: плён быў, як кажуць, і культурны, і эканамічны.

Слэм, пры гэтым, быў толькі рэпетыцыяй Фэсту касінераў, які меў прайсці ў наступным — 2014 — годзе. На яго Юркойць атрымаў усе неабходныя дазволы, але, як чытаем у тым жа лісце, усё сарвалася праз умяшанне КДБ. З Алесем неаднаразова праводзілі «гутаркі» наконт ягоных актыўнасцяў ды дзеячаў культуры, якіх той запрашае ў Астравец. Але, здавалася б, чаго баяцца, калі гэта — гісторыя і краязнаўства, нават не палітыка?.. Аказалася, ёсць чаго.

### Вадзілі да «аўтарытэтаў» пагутарыць пра мову

Ёсць сведчанні, што пасля арышту і змяшчэння ў СІЗА КДБ да Юркойця ўжываліся меры як



**Крыж паўстанцам у Слабодцы на Астравеччыне**



**Падчас суда па справе астравецкіх мытнікаў**

псіхалагічнага, так і фізічнага ціску. Аднойчы яго збілі ледзьве не на вачах у адваката... Адвакат, у сваю чаргу, адмовіўся ад усялякіх каментараў па справе, таму і сцвярджаць з дакладнасцю пакуль, нібыта, і «няма пра што». Наогул, удзел адваката ў справе можна назваць фармальным: юрыста пускалі на сустрэчы хутчэй пагледзець, што Юркойць жывы.

У СІЗА МУС («Валадарка») прэсінг працягваўся. Гэтым разам з-за беларускай мовы: Алесь нават у зняволенні працягваў размаўляць па-беларуску. З гэтай прычыны Юркойця нават адмыслова вадзілі да мясцовых «аўтарытэтаў», каб тыя «папулярна патлумачылі», што рабіць так не варта, каб «нікога не падстаўляць».

### «Спачуваю, але нічога не скажу»

Сімвалічна, што прыкладна дзесяць гадоў таму на Ашмянскай мытні здарылася амаль такая ж гісторыя: па справе аб хабары была затрыманая ўся змена, дзясяткі чалавек. Тады малады Юркойць, які толькі пачынаў кар'еру, ездзіў даваць паказанні па справе ў якасці сведкі... Выглядае жахліва, нібы зачараванае кола.

Фігуранты той даўняй справы толькі зараз выходзяць на волю, атрымаўшы па 10 гадоў зняволення. Адзін з былых мытнікаў, які быў асуджаны і зараз знаходзіцца на волі, адмовіўся ад сустрэчы, адно перадаўшы праз жонку, што спачувае, але ніводнага слова не скажа. І гэта чалавек, які фактычна і так усё страціў: працу, кар'ерныя перспектывы, 10 гадоў жыцця.

### «Заслугоўвае не пакарання, а прызначэння мэрам Астраўца!»

Маштаб асобы Алеся і яго значнасць як для Астравеччыны, так і для ўсёй краіны, зараз ацэньваюць яго сябры. Літаратар і член Саюза пісьменнікаў Усевалад Сцебурака ў падобных ацэнках катэгарычны:

«Алесь Юркойць для Астравеччыны зрабіў болей, чым усе мясцовыя кіраўнікі разам узятыя. Ён паспяваў паклапаціцца пра малую радзіму на ўсіх дзялянках: ад турыстычнай і краязнаўчай да навукова-гістарычнай і культурнай. Пералічваць можна доўга: гэта рабіў і я, і многія іншыя людзі, што сталі на абарону Алеся, — Сяргей Дубавец, Зміцер Бартосік і іншыя. На маю думку, Алесь заслугоўвае не пакарання, а прызначэння мэрам Астраўца! У нармальнай Беларусі так і было б, бо ён — той ідэальны гаспадар на сваёй зямлі, які, маючы разумную галаву, хрысціянскае выхаванне і нястомныя рукі, зрабіў бы гэты куток краіны сапраўднай цацкай!»

Усе без выключэння — і жонка, і сябры — не могуць сабе ўявіць, што Юркойць, патрыёт, адданы службовец, хрысціянін, сапраўды ўдзельнічаў у нейкіх карупцыйных схемах. Жонка Ганна, дарэчы, засталася адна з трыма дзецьмі, якія ўвесь час перапытваюць: «Дзе тата? Калі вернецца?..»

Неаднаразова Ганна Юркойць звярталася з хадайніцтвам аб вызваленні Алеся пад падпіску аб нявыездзе (так, дарэчы, ужо выйшлі на волю некаторыя фігуранты справы), але безвынікова.

Адмовілі нават тады, калі Ганна трапіла ў аўтакатастрофу і пашкодзіла сабе хрыбет, месяц пасля не ўстаючы з ложку. «Дзяржаўныя мужы» з юрыдычнай адукацыяй цынічна параілі звярнуцца да органаў апекі, а наконт мужа паведамілі, што «мера стрымання адпавядае цяжкасці злачынства». На дадзены момант Ганна яшчэ лечыцца, ходзіць на працэдуры.

### Дзяржаўная палітыка або «феадальныя» разборкі?

Сёння, калі фінал працэсу не за гарамі, ужо адназначна зразумела, што апраўдальнага прысуду не будзе. Як і не можа быць, калі адны людзі ў пагонах судзяць іншых людзей у пагонах. Інакш — садзіць варта следчых, якія кінулі ў турму невінаватых. А такое ў нашых рэаліях немагчыма.

Улічваючы, што Юркойць ужо два гады правёў у СІЗА, а гэты прыроўніваецца да чатырох гадоў у калоніі, яму тэарэтычна могуць даць тыя самыя чатыры гады, выпусціўшы ў зале суда. Альбо — адправіць у калонію, дзе ён неўзабаве зможа падаваць прашэнне аб умоўна-датэрміновым вызваленні. Усё залежыць ад рашэнняў «зверху», як у нас любяць казаць.

Што і хто стаіць за пасадкай Юркойця, узорнага мытніка і грамадзяніна? Ці можна гэта назваць часткай схемы па зачыстцы нацыяналістаў у пагонах, не вычышчаных у 1990-я і 2000-я? Ці гэта лакальныя «феадальныя» разборкі ў сукупнасці з амбіцыямі і перасцярогамі асобных астравецкіх чэкістаў?

Як бы там ні было, але як увесь працэс мытнікаў, так і персанальная справа Юркойця — гэта дыягназ сістэме. Бо пасля падобных выпадкаў у цывілізаваных краінах, як мінімум, кіраўнік Мытнага камітэту падае ў адстаўку. У нас жа ўсё «шыта-крыта». Бо галоўнае, не «як» служыш, а «каму».



**Паркавыя скульптуры з пленэру, арганізаванага Алесем Юркойцем**

Ў | Гэта я — беларускамоўны

# «Мая родная мова дапамагла знайсці сапраўднае каханне!..»

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Хімік з Бабруйска, інжынер са Смаргоні ды беларуская паэтка з сонечнай іспанскай Малагі. Усе яны — удзельніцы перапісу беларускамоўнага насельніцтва, арганізаванага папулярнымі курсамі беларускай мовы «Мова Нанова». І хто цяпер будзе казаць, што цікавасць да беларускай мовы — гэта выключна сталічны трэнд?**

*21 лютага*
*Міжнародны дзень роднай мовы*

### Юлія, хімік, Бабруйск:

— Я дакладна дык і не памятаю, калі пачала размаўляць па-беларуску, таму што ў нашай сям'і ўсе карыстаюцца роднай мовай. З аднаго боку, так адбылося дзякуючы таму, што мама майго таты — мая бабуля — была настаўніцай беларускай мовы і пачатковых класаў, таму мы не маглі не ведаць мовы. Тата — гэта літаральна жывы слоўнік, да яго заўсёды звяртаюцца калегі і знаёмыя, калі патрэбна перакладаць дакументы.

А з мамінага боку іншая гісторыя. Дзядуля, мамін бацька, сам быў з Асіповіцкага раёна, вайсковая служба занесла яго аж на Далёкі Усход, дзе сустрэў ён сваё каханне, сваю Ганну, а мая мама нарадзілася ў горадзе над вялізнай ракой — Амурам. Але добра, што дзядуля прывёз сваю сям'ю на Радзіму, бабуля навучылася чытаць па-беларуску, вельмі захаплялася беларускімі кінастужкамі, адзін з яе любімых твораў — «Людзі на балоце».

Мая мама ў савецкі час магла вызначыцца з нацыянальнасцю на карысць рускай, але яна заўсёды казала, што яна — беларуска, яе ж бацька — беларус, і больш ніякіх ваганняў! Яна была цудоўным чалавекам, добрым і неабыякавым. А якой яна магла быць, калі абрала прафесію настаўніка?! Вучні неаднойчы прызнаваліся, што прыходзяць у школу толькі дзеля яе ўрокаў. Вывучаць гісторыю Беларусі можна толькі па-беларуску! І павагу да мовы, да сваёй гісторыі яна прывівала не толькі нам з сястрой, але ўсім, каму пашчасціла быць яе вучнямі.

Пра сябе асабіста скажу: дакладна заўважыла, што стала думаць па-беларуску, калі пачала чытаць Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім». Гэта, насамрэч, цяжка, таму што асяроддзе па большасці рускамоўнае, але вялікі майстар слова ўплывае каласальна!

А яшчэ мая беларускамоўнасць дапамагла мне знайсці сваё сапраўднае каханне!.. Чалавек, без якога я ўжо не ўяўляю свайго жыцця, аднойчы напачатку нашага знаёмства прызнаўся пра вяшчунства сваёй бабулі: калі ён быў зусім малады і шукаў сябе, шмат вандраваў па свеце, працаваў за мяжой, бабуля яму прадказала сустрэчу з беларусачкай, якая запоўніць сабой усё яго вялікае сэрца! Прайшло нямала часу, але так і здарылася!

Дома паміж сабой мы карыстаемся мовай, ёсць беларускамоўныя сябры рознага ўзросту. Ёсць беларускамоўныя сябры майго таты — людзі, з якімі я знаёмая з дзяцінства, гэта пераважна настаўнікі сталага ўзросту, і багата новых знаёмых, моладзі нашага Бабруйска, якія ўжываюць беларускую мову штодзённа і размаўляюць толькі на ёй.

На жаль, ёсць і тыя, хто не разумее мовы, хоць і не адно дзесяцігоддзе жыве тут. Таму ветліва камунікую з імі ўжо на зручнай ім рускай. Сярод калег — а гэта персанал лабараторыі — стасункі на рускай, бо няма тых, хто валодае адпаведнай хімічнай і тэхнічнай тэрміналогіяй, уся дакументацыя вядзецца на рускай мове, а трасянка для мяне недапушчальна, лічу, што гэта ганьбіць мову...

Прыемна, што сярод калег ёсць тыя, хто з задавальненнем папрактыкуецца ў роднай мове паміж сабой падчас адпачынку, калі нішто нам не замінае ўзняць адзін аднаму настрой шчырай гутаркай.




### Аляксандра Парфянюк, інжынер, Смаргонь:

— Беларуская мова ўвайшла ў маё жыццё праз курсы «Мова




# Беларуская мова ў бізнес-асяроддзі:

Аляксей ХАРКЕВІЧ

**Пакуль у грамадстве разгараюцца спрэчкі адносна ролі беларускай мовы ў сацыяльна-палітычным жыцці краіны, беларускі бізнес пачынае дэманстраваць уласную пазіцыю адносна беларускай мовы. І гэта пазіцыя досыць адназначная.**

### Павелічэнне колькасці беларускамоўных брэндаў у ТОП–100

Украінскае агенцтва MPP Consulting на працягу апошніх 7 гадоў штогод складае ацэначны рэйтынг ста самых дарагіх нацыянальных брэндаў Беларусі.

Калі зазірнуць у гэтыя рэйтынгі і параўнаць іх вынікі за 2010 і 2016 гады, дык можна ўбачыць, што колькасць беларускамоўных брэндаў вырасла амаль у паўтара разы — з 14 да 20. У сваю чаргу, колькасць рускамоўных марак у ТОП–100 беларускіх брэндаў скарацілася з 43 да 39. Астатнія гандлёвыя маркі нельга адназначна аднесці да якой-небудзь з двух моваў Беларусі.

Рост колькасці беларускамоўных брэндаў у ТОП–100 кажа пра тое, што беларускі буйны бізнес за кошт выкарыстання беларускамоўнага неймінгу імкнецца падкрэсліць сваю беларускую прыналежнасць на знешнім рынку.




### Рост колькасці беларуска харчавання

Не толькі буйны бізнес актыўна пераходзіць на беларускую мову. Калі прыгледзецца да шыльдаў беларускіх крамаў, салонаў, кафэ, дык можна заўважыць, што колькасць беларускамоўных шыльдаў паступова павялічваецца. Каб праверыць гэта, звернемся да статыстыкі гандлёвага рэестра, які складаецца Міністэрствам антыманапольнага рэгулявання і гандлю Рэспублікі Беларусь.

Дадзеныя гандлёвага рэестра на пачатак 2016 года паказваюць, што ў Беларусі было 159 аб'ектаў грамадскага харчавання з назвамі, што адносяцца толькі да беларускай мовы. У гандлёвым рэестры за студзень 2017 года такіх аб'ектаў харчавання было ўжо 425. Такім чынам, усяго за год колькасць беларускамоўных аб'ектаў грамадскага харчавання вырасла ў 2,7 раза. Гэта сведчыць пра сапраўдны бум беларускамоўнага неймінгу сярод дробнага і сярэдняга бізнесу.

Выкарыстанне беларускіх назваў прадпрыемствамі сферы грамадскага харчавання, як правіла, выклікана імкненнем падкрэсліць аўтэнтычнасць беларускай кухні.

### Рост папулярнасці беларускамоўнай рэкламы

Пра рост папулярнасці рэкламы на беларускай мове сведчыць статыстыка фестывалю беларускамоўнай рэкламы «AdNak!». З 2010-га па 2015 год колькасць работ, прадстаўленых на фестываль, павялічылася больш чым у тры разы — са 105 да 370.

Многія буйныя беларускія вытворцы пераходзяць на беларускамоўную рэкламу. З найбольш раскручаных брэндаў можна адзначыць беларусізацыю




рэкламы марак «Бульбаш», «Лідскае», «Беларусбанк», velcom.

Рэкламны зварот на беларускай мове пачынаюць актыўна выкарыстоўваць і прадстаўнікі малога бізнесу. Для іх гэта выдатная магчымасць вылучыцца на фоне аднастайных рэкламных аб'яваў канкурэнтаў.

У чым жа прычына паступовай беларусізацыі беларускага бізнесу?

### Моднае захапленне або новая рэальнасць

Бізнес, як вядома, вымяраецца грашыма, і таму пазбаўле-




**Было некалькі людзей, якія казалі, што я не маю права займацца беларускай літаратурай, а пісаць павінна толькі па-іспанску. З імі перастала камунікаваць, бо гэта расізм, а расізм — гэта прыкмета дурноты**

Нанова» ў Маладзечна — як схадзіла адзін раз, не змагла спыніцца! Агулам карыстаюся роднай мовай, на жаль, не стала, але з беларускамоўнымі сябрамі заўсёды размаўляем на мове. Вельмі запомнілася, як падзякаваў па-беларуску ў маленькай вёсачцы на Крыце гандляр, калі даведаўся, што мы з Беларусі. Было прыемна!

**Анхела Эспіноса, паэтка, ганаровы сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў, Іспанія:**

— Нягледзячы на тое (альбо, можа, менавіта таму), што я цяпер жыву ў Варшаве, я размаўляю па-беларуску 90% часу. Па-польску размаўляю ў крамах, з тэхнікамі, з лекарамі і з нешматлікімі польскімі знаёмымі, якія не разумеюць беларускую мову. Вучуся на варшаўскім факультэце беларускай філалогіі, таму камунікаванне ва ўніверы на 99% па-беларуску, большасць знаёмых альбо філолагі, альбо з беларускай дыяспары (беларускамоўныя прынамсі часткова, у тым ліку ў размовах са мной).

Рэгулярна хаджу на беларускія мерапрыемствы, перапісваюся з сябрамі пераважна па-беларуску (бывае, па-англійску, па-іспанску, напрыклад, з сям'ёй), чытаю шмат па-беларуску, бо ў мяне літаратуразнаўчая спецыяльнасць у магістратуры...

Першы раз я пачула беларускую мову, як мне здаецца, у ЗША. Я з'ездзіла ў Паўночную Караліну на месяц вучыцца на семінарах для маладых дыпламатаў. Мне было 15 гадоў. Там было шмат людзей, якія размаўлялі на розных славянскіх мовах, але раней я ніколі не чула ніякіх моваў з гэтай групы, таму не ведала дакладна, дзе беларуская, а дзе руская, польская, украінская.

Пачула беларускую мову свядома я пазней у Варшаве, пасля перамогі на конкурсе «Беларусь у фокусе», калі мяне запрасілі на ўзнагароджанне, а там было многа беларускамоўных журналістаў і іншыя беларускамоўныя госці, дзякуючы якім я палюбіла беларускую мову і вырашыла яе вывучыць. Доўга збірала матэрыялы (у Іспаніі нічога няма па дыдактыцы/вывучэнні беларускай мовы), і доўга вучылася сама, без магчымасці практыкавацца, размаўляла з люстэркам, каб папраўляць вымаўленне, шмат чытала, часта ледзь разумеючы.

Потым дзеля моўнай практыкі я пачала пісаць беларускамоўны блог, пасля з'явіліся першыя вершы (я заўсёды спрабую пісаць вершы на новых мовах), мяне заўважылі ў літаратурным асяроддзі, і я пачала друкавацца. У гэтым акадэмічным годзе маю абараніць магістарскую працу ў галіне літаратуразнаўства — вядома, па-беларуску.

Маё жыццё змянілася кардынальна, бо цяпер беларушчына — гэта мая прафесія і большасць маіх хобі. І новыя сябры з'явіліся, і новыя кнігі для чытання, новая музыка... У беларускай літаратурнай «тусоўцы» хто прыняў лепш, хто горш. Большасць людзей паставілася станоўча да мяне (магчыма, палічылі несправядлівым адмовіць мне ў праве пісаць па-беларуску толькі за тое, што не нарадзілася ў Беларусі і ведаю мову з кніг).

З іншага боку, нават сярод літаратараў мала для каго беларуская мова — менавіта першая. Людзі ў сваёй большасці перайшлі на беларускую мову раней ці пазней. Чаму чалавек мае больш ці менш права пісаць па-беларуску ў залежнасці ад таго, з якой мовы перайшоў на яе?

Былі і людзі, якія яўна зайздросцілі і казалі, што мае творы друкуюць толькі таму, што я іншаземка. Прызнаю, што я таксама пра гэта думала, былі асабістыя крызісы (асабліва праз сумненні, ці заслугоўваю назваць свае творы літаратураю, і ці правільна публікаваць іх па-беларуску), але, мяркую, калі б мае вершы не мелі ніякай вартасці, іх (адносная) папулярнасць трымалася б не так доўга (ужо больш за два гады друкуюся), я проста сышла б з моды, не?

Таксама было некалькі людзей, якія казалі адкрыта, што я не маю права займацца беларускай літаратурай, а пісаць павінная толькі па-іспанску. З імі перастала камунікаваць, бо гэта расізм, расізм — гэта прыкмета дурноты і вузкага ўспрымання свету, а да такога ў мяне нізкая талерантнасць. Хто хоча крытыкаваць, калі ласка! Але хай крытыкуе якасць твораў, а не пашпарт аўтара.

Я заўсёды была дзіўнаватым чалавекам, таму сваякі да маёй захопленасці беларускай мовай ставяцца спакойна (прынамсі, ужо прывыклі). Калі я яшчэ вучылася ў школе, бацькі хацелі, каб я паступіла на права і займалася дыпламатыяй ці палітыкай якой, альбо каб здала дзяржаўны іспыт і сядзела ў офісе ў адміністрацыі. Але было ясна, што гэта не здарыцца, і хутка прынялі — маўляў, рабі, што хочаш.

Багата было забаўных сітуацый з мовай, ладна, калі не верылі, што я сама вершы напісала, але некаторыя людзі нават падумалі, што я — «качка», і мяне прыдумаў які хітры журналіст.




# мода або новая рэальнасць?

ны якіх-небудзь забабонаў. А значыць, паступовая беларусізацыя бізнесу з'яўляецца сведчаннем таго, што спажывец станоўча рэагуе на беларускамоўную камунікацыю. Чаму так адбываецца?

У любой краіне асноўны аб'ём спажывецкага попыту прыпадае на людзей ва ўзросце ад 25 да 40 гадоў. Менавіта ў гэты ўзрост паступова ўваходзіць пакаленне, якое нарадзілася пасля распаду Савецкага Саюза. Гэта маладое пакаленне пазбаўлена забабонаў адносна статусу Беларусі як «малодшай сястры». Наяўнасць беларускага акцэнту больш не разглядаецца маладымі людзьмі як перашкода для паспяховай кар'еры.




Разам з тым у маладога пакалення існуе патрэба ўсведамлення ўласнай ідэнтычнасці. Гэта тычыцца не толькі чалавека асабіста, аднак і ўсёй беларускай нацыі. Хочацца выразнага вызначэння таго, хто мы і чым адрозніваемся ад астатняга свету.




З усведамленнем уласнай ідэнтычнасці прыходзіць запатрабаванасць словаў і сімвалаў, што былі б зразумелыя толькі беларусам. Адсюль мы назіраем рост папулярнасці спрадвечнай беларускай сімволікі, аўтэнтычнага дызайну, беларускамоўнага неймінгу. У гэтым няма палітычнага падтэксту. Гэта аб'ектыўны працэс станаўлення беларускай дзяржавы.

Змена плацежаздольнага пакалення — толькі адна з прычын росту папулярнасці беларускай мовы. Паступовая беларусізацыі выклікана і макраэканамічнымі прычынамі. У прыватнасці, выкарыстанне беларускай мовы ў афармленні ўпакоўкі тавараў можна разглядаць як складовы элемент праграмы імпартазамяшчэння. Не выпадкова лозунг «Купляйце беларускае» паўстаў яшчэ задоўга да з'яўлення Мытнага Саюза.

**Усяго за год колькасць беларускамоўных аб'ектаў грамадскага харчавання вырасла ў 2,7 раза. Гэта сведчыць пра сапраўдны бум беларускамоўнага неймінгу сярод дробнага і сярэдняга бізнесу. Мова падкрэслівае і аўтэнтычнасць беларускай кухні**

Для беларускіх экспарцёраў выкарыстанне беларускай мовы на ўпакоўцы тавараў, якія накіроўваюцца на знешні рынак, увогуле мае сінэргетычны эфект. Бо выкарыстанне беларускай сімволікі адным паспяховым прадпрыемствам ускосна спрыяе выхаду на знешні рынак і іншых беларускіх кампаній.

У сувязі з гэтым самым паказальным прыкладам з'яўляецца ўнутранае афармленне крамаў IKEA. У якой бы краіне ні знаходзілася крама гэтай карпарацыі, у гандлёвай зале заўсёды прысутнічае інфармацыя на шведскай мове. Дзякуючы гэтаму IKEA прасоўвае ў рэгіёне не толькі сябе, але і ўсю Швецыю. Гэты нюанс не зашкодзіла б узяць на ўзбраенне і беларускаму Міністэрству прамысловасці.

Як ні дзіўна, але ў інтарэсах буйнога бізнесу нават новыя рэвалюцыйныя рэформы беларускай мовы. Вяртанне на лацінку ці яе паралельнае выкарыстанне ў дачыненні да беларускай мовы можа адкрыць новыя перспектывы для беларускіх экспарцёраў. Афармленне беларускай прадукцыі стане больш зразумелым і прыязным для замежных спажыўцоў, а выкарыстанне лацінскіх шрыфтоў адкрые новыя магчымасці для беларускіх дызайнераў.

Такім чынам, відавочна, што рост папулярнасці беларускай мовы з'яўляецца зусім не часовай з'явай. Гэта аб'ектыўны працэс, які ў бліжэйшыя гады будзе толькі ўзмацняцца.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### БАЛІВІЯ. Культ Маралеса

Эва Маралес, прэзідэнт Балівіі, адчыніў самы вялікі музей у краіне — Музей дэмакратычнай і культурнай рэвалюцыі. Нягледзячы на афіцыйную назву экспазіцыі, яна, як лічыць прэса, прысвечаная выключна асобе Маралеса. На стэндах музею можна пазнаёміцца з інфармацыяй пра жыццё і палітычную кар'еру кіраўніка дзяржавы. Найбольш незвычайная зала распавядае пра поспехі цяперашняга прэзідэнта на ніве футболу. Пра тое, што мэта музею — стварэнне культу Маралеса, сведчыць і факт, што ўстанова знаходзіцца ў гарадку побач з вёскай, дзе нарадзіўся цяперашні кіраўнік Балівіі. Няма сумневаў, што новы музей — фрагмент спробы Маралеса ў трэці раз заняць пасаду лідара краіны. Большая частка балівійскага электарату — індзейцы, якім бедны матэрыяльны стан кампенсуе думка пра тое, што Маралес — першы прэзідэнт-індзеец у гісторыі. Цікава, што апазіцыя заявіла: яна будзе намагацца выкарыстоўваць тэму музея як частку прапаганды супраць Маралеса. Вядома, што музей, прысвечаны Маралесу, быў прафінансаваны выключна дзяржавай і ўляцеў бюджэту прыкладна ў сем мільёнаў еўра.

**Паводле брытанскай прэсы**

### МАЛДОВА. З гербу знік крыж

Нядаўна абраны прэзідэнтам Малдовы сацыяліст Ігар Дадон наведаў Іран, каб прыняць удзел у адкрыцці Чэмпіянату свету па шахматах сярод жанчын. Палітычна нейтральны візіт у выніку выліўся ў мегаскандал. Усё таму, што на сцягу ў залі, дзе выступаў Дадон, арол на дзяржаўным гербе Малдовы быў выяўлены без крыжа ў дзюбе. Заўзятыя працаўнікі прэзідэнта адразу прыгадалі, што падчас выбарчай кампаніі ў штабе Дадона абяцалі ў выпадку перамогі «ўсталяваць на кожным скрыжаванні паклонныя крыжы». Адміністрацыя Дадона тлумачыць, што з меркаванняў паліткарэктнасці кіраўніцтва мусульманскіх краін прыбірае са сцягоў іншых дзяржаў хрысціянскія сімвалы. «Гэта практыкуецца ў многіх дзяржавах, якія вызнаюць іслам, і, натуральна, прэзідэнт ніякага дачынення да гэтай практыкі не мае», — кажа прэс-служба малдаўскага гаранта.

**Паводле малдоўскай прэсы**

### УКРАІНА. Загадкавая смерць генерала

У Кіеве на працоўным месцы памёр 56-гадовы намеснік начальніка генштаба Украіны Генадзь Вараб'ёў. Паводле афіцыйнай заявы, «Вараб'еў памёр раптоўна на працоўным месцы». У прынцыпе, імя нябожчыка практычна нічога не казала ўкраінскай грамадскасці, пакуль не сталі вядомыя некаторыя рэчы з біяграфіі нябожчыка. У студзені 2014 года ён адзіны сярод генералаў адмовіўся выканаць загад Януковіча — накіраваць даручаныя яму падраздзяленні для падаўлення акцый пратэсту ў краіне і падаў у адстаўку. Адначасова, практычна адразу пасля смерці Вараб'ёва стала вядома, што ў Мінабароны, дзе той працаваў, знік журнал уліку сакрэтных тэлефонных перамоў кіраўніцтва абароннага ведамства за часы Еўрамайдану. З улікам таго, што ўкраінская Феміда дасюль не высвятліла, хто стаяў за забойствам людзей на Майдане, смерць генерала і знікненне дакументаў адразу пачалі разглядацца ў сувязі. Тым больш, што на носе — трэцяя гадавіна перамогі Рэвалюцыі Годнасці, калі тэма пакарання вінаватых у смерці «нябеснай сотні» абавязкова ўзнікне. Нарэшце, некаторыя сайты сепаратыстаў намякнулі, што смерць Вараб'ёва — помста за гучнае забойства вядомага данецкага камандзіра Гіві. На жаль, з-за моцнай палітычнай дынамікі ўкраінскага палітпрацэсу вельмі сумнеўна, што мы хутка даведаемся, хто стаіць за смерцю генерала і ці звязаная яна з падзеямі на Майдане.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ШВЕЙЦАРЫЯ. Фемінізаваць Wikipedia

Адміністрацыя швейцарскага кантону Вале прыняла незвычайнае рашэнне. За кошт бюджэту кантону тут арганізуюць бясплатныя курсы для жанчын, якіх будуць вучыць, як рэдагаваць і выстаўляць тэксты на Wikipedia — інтэрнэт-энцыклапедыю, што ствараецца за кошт аўтараў-валанцёраў. На думку кіраўніцтва кантону, жаночая тэма вельмі слаба прадстаўленая ў праекце. Пра гэта яскрава сведчыць статыстыка: толькі кожная шостая біяграфія ў энцыклапедыі — біяграфія кабеты. Цікава, што мясцовыя правыя партыі, якія знаходзяцца ў апазіцыі, асудзілі ідэю фемінізацыі Wikipedia. На іх думку, гэта штучная акцыя, якая супярэчыць прынцыпам канцэпцыі Wikipedia, калі тэксты пішуцца добраахвотна, а не за дзяржаўныя грошы. На самай справе, праект адміністрацыі кантону Вале — не першая спроба інтэрвенцыі дзяржавы ў папулярны праект. У свой час армянскі ўрад пастанавіў павялічыць у Wikipedia колькасць артыкулаў пра Арменію. Гэтым займаўся створаны за ўрадавыя грошы адпаведны дэпартамент. Не так даўно пра намер стварыць падобны дэпартамент заявілі і ў Кіеве.

**Паводле французскай прэсы**



Фота www.aple-at-the-tab.livejournal.com

# Выбары без Навальнага

Алег НОВІКАЎ

**Прысуд Аляксею Навальнаму, які цяпер не мае права ўдзельнічаць у расійскіх прэзідэнцкіх выбарах у якасці кандыдата, цалкам мяняе цяперашні фармат выбараў кіраўніка Расіі 2018-га года. Пра магчымыя сцэнары кампаніі распавядае маскоўскі журналіст Дзмітрый Люблін.**

***— Аляксей Навальны прызнаны вінаватым у буйным крадзяжы лесу ў Кіраўскай вобласці і асуджаны на пяць гадоў пазбаўлення волі ўмоўна. Згодна з расійскім заканадаўствам, у выбарах не можа ўдзельнічаць той, хто мае судзімасць па «цяжкім» артыкуле. Паводле такога якраз і засудзілі Навальнага. Навошта Крамлю было прыбіраць апазіцыянера, які быццам бы прайграе кандыдату Крамля плюс дапамагае вырашыць пытанне яўкі і стварыць выбары?***

— Праблема яўкі на выбарах ва ўмовах пуцінскай «кіруемай дэмакратыі» сапраўды крытычная. Сацыялогія сведчыць, што на выбарах у Думу ў мінулы верасень галасавала толькі 48 працэнтаў выбаршчыкаў. Прычым, тады была хоць нейкая інтрыга, паколькі, акрамя выбараў па партыйных спісах, былі яшчэ і мажарытарныя акругі. На месцах шмат незалежных кандыдатаў кінулі выклік прадстаўнікам ад вядучых партый, і людзі пайшлі галасаваць. Пакуль ажыятажу вакол выбараў 2018-га няма, і скандальны і папулярны ў інтэрнэце Навальны мог сапраўды часткова палітызаваць публіку.

У сувязі з гэтым ёсць думка, што Пуцін, зняўшы Навальнага, вырашыў сам стаць Навальным: пачаць буйную кампанію супраць карупцыянераў. У любым выпадку, я пакуль не веру ў версію, што мы не пабачым твар Навальнага на білбордах у 2018-м. Дарэчы, сам ён заявіў, што рыхтуецца ісці на выбары.

***— Калі не будзе Навальнага, хто з апазіцыйных палітыкаў можа прэтэндаваць на ролю галоўнага дэмакратычнага кандыдата? Якія ў іх шанцы? Ці магчымы адзіны кандыдат?***

— Цяпер найбольш высокія шанцы ў Грыгорыя Яўлінскага — лідара партыі «Яблоко». Аднак у вачах прадстаўнікоў маладога сярэдняга класу, касцяку электарату расійскіх дэмакратаў, Яўлінскі — чалавек мінулага. У яго перамогу не вераць нават шмат хто сярод аднапартыйцаў.

Яшчэ ёсць партыя ПАРНАС з Міхаілам Касьянавым. Хаця ПАРНАС праваліў думскую кампанію, Касьянаў дае зразумець, што разглядае магчымасць удзелу ў выбарах у наступным годзе. Праблема ў тым, што ў Касьянава і Навальнага — адзін электарат, а апошні моцна пасварыўся з лідарам ПАРНАСу. Што тычыцца магчымасці адзінага кандыдата: час ад часу падобныя плёткі гуляюць па старонках прэсы, аднак пакуль «Яблоко» рашуча супраць блокаў праз адсутнасць адзінай палітычнай павесткі.

***— Нельга не заўважыць, што працэс над Навальным адбываўся на фоне актывізацыі групоўкі Вячаслава Мальцава — радыкальнага антыпуцінскага палітыка, якога лічаць, на самай справе, чалавекам Крамля, які працуе на дыскрэдытацыю апазіцыі.***

— Сапраўды, так званы Рух «14%» нарошчвае актыўнасць. Мальцаў ужо абвясціў, што збіраецца ісці ў прэзідэнты. З іншага боку, пакуль не зразумелая задача кампаніі. Мальцаў, паводле яго словаў, барацьбу з рэжымам бачыць як нарастаючую лавіну вулічных акцый, якая павінна дасягнуць кульмінацыі 5 лістапада 2017 года. Такі падыход выключае ўдзел у выбарах у якасці зарэгістраванага кандыдата. Цікава, што месцам акцый Мальцаў заклікаў рабіць помнікі Леніну, якія ёсць фактычна ў кожным горадзе Расіі.

***— Ці магчымы варыянт, калі Пуцін адмовіцца ад чацвёртага тэрміну на карысць пераемніка?***

— Вылучэнне Пуціна будзе залежаць ад шматлікіх фактараў: стану кансэнсусу ў расійскай эліце, міжнароднай сітуацыі, ступені дэманізацыі яго ў заходніх медыя, дзе Пуціна ўсё часцей параўноўваюць з Асадам. На цяперашні дзень такі варыянт, як аперацыя «пераемнік», не выключаны. Праўда, існуе шмат інструментаў, якія могуць дазволіць Пуціну кантраляваць прэзідэнцкую вертыкаль, не будучы фармальна кіраўніком краіны.

***— У выпадку падзення рэйтынгу напярэдадні выбараў 2018 года, ці будзе Пуцін здольны пайсці на геапалітычныя авантуры?***

— Пакуль адзінай пляцоўкай для такой правакацыі можа быць Украіна. Там лёгка правакаваць украінскія войскі на нейкія аперацыі супраць непрызнаных рэспублік, што адразу выкліча выбух патрыятызму ў расійскім соцыуме, які можна будзе канвертаваць у галасы выбаршчыкаў. Аднак пакуль не зразумела, што будзе на Данбасе і ва Украіне праз год. Напэўна таму Пуцін пакідае Мядзведзева на пасадзе прэм'ера. Яго ўрад апошнім часам вельмі непапулярны праз антысацыяльныя заканадаўчыя ініцыятывы, накшталт нежадання ўздымаць мінімальны заробак. За кошт адстаўкі Мядзведзева ўлада на нейкі час можа палепшыць імідж. Мяркую, трэба пачакаць сустрэчы Трампа і Пуціна, якая не толькі вызначыць схему міжнародных адносінаў, аднак і моцна паўплывае на розныя моманты выбарчай гонкі.

# Каталонія рыхтуецца да паўстання

Алег НОВІКАЎ

**Іспанскім журналістам сталі вядомыя планы радыкальных каталонскіх нацыяналістаў, якія збіраюцца адкрыта выступіць супраць «рэпрэсіўнай іспанскай дзяржавы».**



Фота www.tengrinews.kz

Канчатковае рашэнне пра паўстанне было прынята яшчэ 28 студзеня на пасяджэнні фракцыі партыі «Кандыдаты народнага адзінства» (CUP) у каталонскім парламенце. План заключаецца ў тым, каб змяніць фармат руху за незалежнасць — трансфармаваць яго ў адкрыты антыдзяржаўны выступ. «Для левых незалежнікаў і народнага руху надышоў час, калі мы павінны захапіць вуліцы замест таго, каб ускладаць надзеі на рашэнне канфлікту інстытуцыянальнымі сродкамі», — гаворыцца ў студзеньскіх тэзісах.

Час для бунту абраны сапраўды някепскі. Край імкліва набліжаецца да «кропкі невяртання». На пачатку жніўня, паводле плана, прынятага яшчэ папярэднім урадам Артура Маса, павінны пачаць працу першыя органы будучай незалежнай каталонскай дзяржавы — рэгіянальная падатковая, міністэрства юстыцыі і тутэйшая сістэма сацыяльнага забеспячэння. Пасля павінен адбыцца рэферэндум пра незалежнасць. Няма сумневу, што цэнтр, які не даваў санкцыю на ўсё, апісанае вышэй, будзе ўсяляк замінаць працэсу. Адным словам, канфлікт непазбежны.

Між тым, атмасфера ў лагеры незалежнікаў невясёлая. Ужо згаданага Артура Маса, які запусціў працэс атрымання незалежнасці, прыцягнулі да судовай адказнасці. Аднак судзяць яго не за сепаратызм. Падатковая высветліла некаторыя забаўныя дэталі фінансавання ў 2014-м плебісцыту наконт незалежнасці каталонскага краю. Нагадаем, што ў апытанні тады прыняла ўдзел трэцяя частка насельніцтва аўтаноміі, якая мае права голасу, больш за 80% падтрымалі поўны суверэнітэт Каталоніі ад Іспаніі. Сёння стала вядома, што бюджэтныя сродкі былі выкарыстаныя нямэтава. Напрыклад, на рэкламу рэферэндуму ў міжнародных медыя ўрад Маса выдаткаваў каля 127 тысяч бюджэтных еўра.

Цяпер за бюджэтныя махінацыі пракурор патрабуе асудзіць Маса на дзесяць гадоў турмы. Тое, што адзін аўтараў праекту вольнай Каталоніі апынуўся казнакрадам, не спрыяе папулярнасці незалежніцкай праграмы. Другі пракол іспанскага ўраду заключаецца ў дэманстратыўным ігнараванні рэвалюцыйных заяў і рэзалюцый, якія гучаць з трыбуны цяперашняга каталонскага парламента.

У выніку аматараў незалежнасці пачынаюць успрымаць як фанатаў славутага клубу «Барселона», што да хрыпаты скандуюць незалежніцкія крычалкі, ад якіх, па сутнасці, нікому ні холадна, ні горача. У выніку мы назіраем цугцванг, які, як сведчыць сацыялогія, яўна грае на карысць Мадрыда. Шмат хто ўсе больш успрымае незалежнасць Каталоніі як недасяжны ідэал, які палітыкі абяцаюць, каб атрымаць мандаты.

Выхад з сітуацыі радыкалам з CUP бачыцца ў выглядзе масавага вулічнага пратэсту. Плануецца вывесці народ на вуліцы і праз вулічную агітацыю дамагацца ад парламенту прыняцця аднабаковай дэкларацыі каталонскай незалежнай дзяржавы. Ужо зараз, быццам бы, вядуцца кансультацыі з радыкальнымі лявацкімі і нацыяналістычным групоўкамі ў іншых рэгіёнах Іспаніі. Калі CUP заклікае да паўстання, радыкалы ва ўсіх кропках краіны павінны таксама пачаць будаваць барыкады. Мэта — не даць Мадрыду кансалідаваць свае сілы на каталонскім фронце.

Наколькі рэалістычны план, паводле якога праз тры месяцы Каталонію павінен ахапіць сапраўдны мяцеж? На думку шмат каго, такі праект немагчыма рэалізаваць без падтрымкі іншых партый, якія ўваходзяць ва ўрадавую кааліцыю левых нацыяналістаў. Апошнія, хутчэй, будуць сабатаваць паўстанне — і не толькі таму, што бачаць у CUP канкурэнта. Справа ў тым, што CUP таксама крытыкуе звыклыя канцэпты каталонскай незалежнасці як звычайнай дэмакратычнай дзяржавы. На думку ідэолагаў CUP, незалежнасць павінна абапірацца не на права, а на перманентны нізавы рух, так званы «el procesismo».

Менавіта з гэтага, дарэчы, сыходзіць і прынцып дзейнасці CUP. Партыя паўстала пасля падзення дыктатуры Франка як сетка лакальных экасацыяльных ініцыятыў, якія намагаюцца перш за ўсё ўплываць на муніцыпалітэты. Дэпутатаў муніцыпальных саветаў выбаршчыкам лягчэй кантраляваць, чым дэпутатаў рэгіянальнага і нацыянальнага парламентаў. CUP увогуле цураўся парламенцкіх выбарчых кампаній, пакуль не пачаўся апошні крызіс класічных нацыяналістычных і левых партый. На хвалі расчаравання партыямі істэблішменту CUP прарвалася ў рэгіянальны парламент, а цяпер увогуле марыць пра рэвалюцыю. «Без акцыі масавага непадпарадкавання мы не маем шанцаў парваць з іспанскай легітымнасцю», — кажуць лідары партыі.

Хаця шанцы ў анансаванага паўстання вельмі спрэчныя, іспанская прэса трактуе планы рэвалюцыянераў вельмі сур'ёзна. Пры цяперашніх раскладах альтэрнатывай паўстанню зноў будзе працяг старога серыялу, калі цэнтр і каталонскі ўрад бясконца судзяцца наконт межаў кампетэнцый аўтаноміі. Гэта вельмі надакучыла нацыяналістычнаму базісу. На днях аўтарытэтная грамадзянская арганізацыя Нацыянальная Асамблея Каталоніі (ANC) прызналася, што «без канфрантацыі каталонскай і іспанскай легітымнасці працэс незалежнасці немагчымы». Праўда, ANC заклікала рабіць гэтую канфрантацыю, якую, дарэчы, ужо завочна называюць «рэвалюцыяй ўсмешак», мірным шляхам.

Не выключана, што сігнал да «рэвалюцыі ўсмешак» дасць Брусэль, які раней баяўся, што незалежнасць Каталоніі паставіць пад пагрозу стабільнасць Еўрасаюза. Сёння ж кіраўніцтва ЕС усё відавочней сімпатызуе шатландцам, якія жадаюць застацца ў Еўрасаюзе ў якасці асобнай ад англічан дзяржавы. Такім чынам, змяняецца агульнаеўрапейскі дыскурс адносна іншых еўрапейскіх рэгіёнаў, якія прагнуць незалежнасці.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Хілары Клінтан



Уплывовае выданне «Politico» са спасылкай на атачэнне экс-кандыдаткі ў прэзідэнты ЗША, сцвярджае, што яна, нягледзячы на пройгрыш Дональду Трампу, рыхтуецца выставіць сваю кандыдатуру на выбары 2020-га.

З улікам таго, што дзве папярэдня спробы Клінтан (у 2008-м і 2016-м) былі няўдалыя, навіна яўна не выклікала захаплення ў аднапартыйцаў. Па-першае, у кастрычніку Хілары Клінтан адзначыць 70-годдзе. Па-другое, акрамя яе і так хапае жадаючых стаць кандыдатамі на наступных выбарах. Дарэчы, сярод патэнцыйных кандыдатаў называецца і Мішэль Абама, якая ўваходзіць у лік найбольш папулярных персонаў краіны.

Аднак шанцы ў Клінтан выглядаюць някепска, паколькі яна мае сувязі сярод апаратчыкаў і шмат грошай, якія засталіся ад папярэдняй кампаніі. Тым больш, што зараз Дональд Трамп робіць вельмі радыкальныя крокі, якія могуць давесці яго да імпічменту. Такім чынам, выбары могуць адбыцца дастаткова хутка, і наўрад ці нехта іншы з дэмакратаў будзе гатовы зрабіць салідную кампанію.

Некаторыя дэмакраты ўжо заклікалі актыў негатыўна адрэагаваць на практычныя ініцыятывы Клінтан наконт сваёй кандыдатуры. А ў Філадэльфіі ўжо адбылася першая вулічная акцыя на гэты конт. У любым выпадку, відавочна, што імя Клінтан мы яшчэ пачуем неаднаразова.

### Леанід Цыбілаў



Прэзідэнт непрызнанай Рэспублікі Паўднёвая Асеція прызначыў на 9 красавіка рэферэндум аб змене назвы рэспублікі. Ён прапанаваў прыняць, акрамя існуючай назвы Рэспубліка Паўднёвая Асеція, яшчэ адно — Дзяржава Аланія.

Па словах Цыбілава, «рэспубліка павінна насіць імя тых, хто яе заснаваў», гэта значыць, аланаў — іранамоўных плямёнаў скіфа-сармацкага паходжання.

У грузінскім кіраўніцтве лічаць, што гэты рэферэндум — сведчанне намеру Масквы анексаваць рэгіён, які раней быў часткай Грузіі. Справа ў тым, што Паўночная Асеція, якая ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі, таксама даўно завецца «Аланія». Цалкам яе назва гучыць так: «Паўночная Асеція — Аланія». Калі большасць паўднёвых асецін адкажа станоўча на пытанне рэферэндуму, дык рэспубліка будзе называцца «Паўднёвая Асеція — Аланія». Адсюль застаецца адзіны крок да стварэння адзінай Аланіі, якая, натуральна, будзе суб'ектам РФ.

Самае незвычайнае тое, што рашэнне наконт правядзення ў Паўднёвай Асеціі рэферэндуму супала з важнай дамовай, дасягнутай у Празе ў ходзе чарговага раўнда расійска-грузінскіх перамоваў. Паводле іх, хутка будуць створаныя так званыя «гандлёвыя калідоры» з Грузіі ў Расію праз тэрыторыі Абхазіі і Паўднёвай Асеціі. Кантраляваць тавараабмен праз гэтыя «калідоры» будзе нейтральная швейцарская кампанія.

### Алексіс Цыпрас



З адміністрацыі грэчаскага прэм'ера прыходзяць навіны пра тое, як Цыпрас і яго каманда збіраюцца вырашаць праблему нацыянальных пазыкаў, якая зноў рэзка абвастрылася. Да ліпеня краіна павінна заплаціць сем мільярдаў еўра. У адваротным выпадку на новыя крэдыты Афіны могуць не разлічваць. Сітуацыя настолькі крытычная, што Цыпрас гатовы да самых незвычайных акцый.

Сярод магчымых крокаў не толькі рэалізацыя старой пагрозы — выхад краіны з зоны еўра. Не выключаюць, што Грэцыя можа абвясціць пра пераход на амерыканскія долары. Такі крок, маўляў, можа прымусіць Вашынгтон узяць Грэцыю на буксір. Пра такі сцэнар, быццам, сведчыць нядаўняе нечаканае рашэнне Трампа змяніць пасла ў Афінах. Праўда, ёсць думка, што ракіроўка пасло ў тут ні пры чым, а грэкі наўмысна запускаюць плёткі пра пераход на баксы, каб прымусіць Еўрапейскі Цэнтрабанк выдаць краіне новыя крэдыты.

Новыя калізіі ў еўразоне, безумоўна, не на руку Ангеле Меркель, якую лічаць галоўным лабістам праекту адзінай еўрапейскай валюты. У выпадку абвастрэння крызісу ў Грэцыі напярэдадні вераснёўскіх выбараў у Бундэстаг шанцы Меркель зноў стаць канцлерам выглядаюць больш хісткімі.

17 лютага 2017 | № 6 (520) Новы Час

# Мішачкін і Грышачкін

## Да 80-годдзя Міхася Стральцова

Алена СТРАЛЬЦОВА

**Грыша Барадулін быў не проста самым блізкім чалавекам для Мішы — яны былі сябрамі не разлі вада.**

Завадатарам у гэтым дуэце быў, вядома, Барадулін — ці мо з-за ўзросту, ці з-за жыццёвай дасведчанасці. Дый сам Грыша лічыў Мішу маладзейшым за сябе. Маладзейшым і геніяльным, пра што не стамляўся паўтараць. І Стральцоў называў Барадуліна геніем — казаў, што пасля Купалы ён, канешне, таксама пацалаваны Богам. Невыпадкова ён прысвяціў Грышу гэты свой славуты верш:

*Стаяў і я на гэтай кручы:*
*Бы звон, быў дзень — каціўся Сож*
*Туды, дзе гэты бераг злучан*
*З маленствам, — тым, што басанож,*
*З парою той, якою далі*
*Сваю сінечу і смугу*
*На развітанне мне аддалі —*
*Аддаць назад ім ці змагу?..*





**Ва Ушачах каля роднай хаты Рыгора Барадуліна**

Хоць розніца ва ўзросце ў іх была ўсяго два гады, аднак Мішу здавалася, што Грыша нашмат старэйшы за яго, і яму было прыемна, што ён апекаваўся Грышам, які сапраўды ставіўся да яго як старэйшы брат, што хоць і вырасціў гэтага малодшага, але па-ранейшаму глядзіць за ім. Разам з тым гэта былі, канешне, бязмерная павага і любоў. І калі мы часам жартаўліва сварыліся, Міша папярэджваў:

— Ленка, ты мяне не крыўдзі!

— І што будзе?

— Я Грышку паскарджуся, і ён з табой разбярэцца!

— Я і з Грышкам разбяруся, не хвалюйся! — адказвала я жартам.

Хоць не сказала б, што яны часта сустракаліся — звычайна бачыліся ці на дні народзінаў, ці на пісьменніцкіх з'ездах, ці з іншай нагоды. Аднойчы я міжволі аказалася сведкам адной такой іх сустрэчы. Міша ў той час зламаў нагу, і быў першы дзень, як ён выйшаў на вуліцу — пайшоў у Дом друку атрымліваць вялікі ганарар. І паклікаў мяне з сабой: «Ленка, я табе ганарар аддам, а мне трэба будзе яшчэ папрацаваць, дык бяры таксі і едзь дадому, каб ніхто грошы не скраў». Але я падумала: які дом, калі ЦУМ побач?! І вось, пашвэндаўшыся па ЦУМу, выходжу на вуліцу і бачу — Міша з Грышам «нарысаваліся»! Ну, і я — за імі...

Вось яны зайшлі ў кавярню «На ростанях»... Затым завіталі ў «Кулінарыю»... А трэба сказаць, што Грыша мяне добра яшчэ не ведаў — мо пару разоў бачыў, і цяпер, вядома, не пазнаў, але заўважыў, што следам кіруецца нейкая кабета. Але адкуль яна можа быць? Вядома ж, з КДБ! У тыя гады іншай думкі і быць не магло. І вось цяпер Грыша ідзе, потым раптам азірнецца, спалохаецца, прычым усёй сваёй істотай напалохаецца (ён адразу змяняўся з твару), але Мішу нічога не скажа, каб і яго не палохаць...

Побач з кінатэатрам «Мір» месцілася крама з вялікімі вітрынамі. Тут яны зноў зрабілі «прыпынак», прычым знарок сталі так, каб з вуліцы іх бачна не было. Але паколькі гутарка была, відаць, змястоўная, яны не заўважылі, як пачалі паціху набліжацца адзін да аднаго. Мішу дык ужо мора па калена было, Грыша ж пільнасць не губляў і, раптам спахапіўшыся, адхіляў Мішу назад, каб яго не было бачна з вуліцы. Зрэшты, праз нейкі час гісторыя паўтаралася...

Ужо калі яны накіраваліся ў рэдакцыю «ЛіМа», дзе тады працаваў Міша, я патэлефанавала яму — прапанавала пайсці ў кіно на італьянскі фільм. Міша ў адказ:

— Добрая ў мяне жонка! У мяне нага зламаная, а яна ў кіно цягне!

— А што ты цяпер робіш?

— Ды вось Грышка прыйшоў, нататкі свае прынёс, трэба вычытаць...

«Вычытвалі» яны тыя «нататкі» да ночы — Міша толькі а дванаццатай дадому прыйшоў... Ужо нараніцу — я ж шкодная была! — пытаюся:

— Мішэль, чаму ты ўчора ў кіно не захацеў пайсці?

— Дык нага ж зламаная! Я табе ўчора сказаў, а ты зноў завялася!

— Але з гэтай хворай нагой ты прайшоў... — І апісала ўвесь іх з Грышам учорашні маршрут.

— Прычым вы ж ідзяце і крычыце на ўсю вуліцу! Грыша хоць азіраўся, ці не кіруецца хто следам за вамі, праўда, усё адно не звяртаў ні на што ўвагі — хоць і палохаўся, але ішоў далей, а ты ж увогуле нічога не заўважаў!..

Міша так рагатаў тады!

Але бачыліся яны ўсё ж не так часта, затое перазвоньваліся штодня, прычым па пяць, па дзесяць разоў на працягу дня. У Грышы раніца традыцыйна пачыналася з пытання: «Мішэль, што ў цябе на сняданне?» І калі Міша ўсё падрабязна апісваў, чуў у адказ: «О, Мішэль, дык ты як пан жывеш!» А голас у Грышы быў прыгожы, сакавіты!

Звычайна ён зваў яго «Мішэль», зрэдчас — «лонданскі дэндзі». Адзін час прадаваліся імпартныя касцюмы з цвіду, на англійскія фрэнчы былі падобныя, з накладнымі кішэнямі, яны вельмі падабаліся Грышу. Ён увогуле любіў модна апранацца, не так, як усе. Міша ж, наадварот, аддаваў перавагу класіцы. Ніякіх джынсаў не прызнаваў. Памятаю, аднойчы набыла яму джынсы, ён узяў іх летам у Кактэбель, але і там хадзіў у штанах і пры гальштуку. Нават на пляжы. І ніколі не насіў басаножак — толькі туфлі. Трэба сказаць, што я імкнулася набываць яму выключна імпартныя рэчы, бо мне хацелася, каб ён добра выглядаў. Невыпадкова ж Грыша гаварыў: «Мішэль заўсёды так апрануты — ну, проста замежнік!» З-за гэтага і называў яго «лонданскі дэндзі».

Да таго ж Міша ніколі не насіў ніякіх галаўных убораў, толькі зімой вушанку. Але аднойчы з'явіўся ў цёмна-сінім берэціку. Я была вельмі здзіўлена, бо ведала, што сам Міша не мог завітаць у краму і набыць той берэцік. Ён наогул сам сабе нічога не купляў — гэта было маім абавязкам. І тут раптам — у берэце! Пытаюся:

— Што гэта?

Ён смяецца, па-добраму, але хітравата:

— Гэта ж Грышка!..

— Што Грышка?

— Сустрэў мяне і кажа: «Такі холад на вуліцы, а ты ходзіш без капелюша!..» Ленка, не паверыш, але хоць ён і быў у берэце, аднак дастаў з кішэні яшчэ адзін берэт і надзеў на мяне. «Насі», — сказаў... От, Грышка мяне любіць!..

Між тым гэты берэт ён больш ніколі не насіў, але праз нейкі час прыйшоў ужо ў карычневым берэце і зноў хіхікае. Пытаюся:

— Ну, а гэты адкуль?

— Таксама Грыша! Зноў з кішэні дастаў...

А потым з'явіўся і чорненькі берэцік — з гэткай жа самай гісторыяй...

Калі Грыша быў рухавы і з гумарам, то Міша больш спакойны, хоць у яго, вядома, таксама было добрае пачуццё гумару, але ён тлумачыў: «Я баюся жартаваць і асцерагаюся смяяцца, бо потым мне бывае дрэнна». Не фізічна дрэнна, а ў тым сэнсе, што жыццёвая сітуацыя можа абярнуцца супраць яго... А можа, яму хапала майго гумару? Відаць, розныя полюсы ўсё ж прыцягваюцца, бо Міша быў маўклівы, я ж гаваркая дзеўка была. Хоць калі бачыла, што ён пра нешта сваё думае, тады, канешне, замаўкала, але ён мог спахапіцца: «Лена, а што ты маўчыш?!» Я часам нават падскоквала ад нечаканасці:

— Божа! Я ж бачу, што ты нешта сабе думаеш!

— Ты гавары...

Ён і Барадуліну не раз казаў, і Віктару Карамазаву: «Калі мая Ленка гаворыць, я ведаю, што дома ў мяне ўсё добра, калі ж маўчыць — у мяне сцэны падаюць».

— Міша, дык я ж табе перашкаджаю! — гаварыла я.

— Не.

— Я табе расказваю, але ты мяне не чуеш, бо думаеш пра нешта сваё.

— Усё цудоўна чую. Толькі не маўчы...

З Грышам жа ён мог размаўляць бясконца, гутарылі, канешне, найперш пра літаратуру. Звычайна Грыша чытаў па тэлефоне свае вершы, Міша — свае, і яны рабілі адзін аднаму заўвагі, правілі адзін аднаго, і па Мішу было бачна, што яму гэта цікава, што для яго ў тым ёсць патрэба. Не раз я чула, як Міша казаў: «Добра... Добра...» А часам: «Грыша, паглядзі вось гэты радок — можа, вось так зрабіць... Падумай...» Тое ж самае адбывалася, калі Міша чытаў Грышу свае вершы. І зноў жа неаднойчы я была сведкам, як Міша гаварыў: «Добра-добра, дзякуй, што сказаў, я падумаю...»

Стэлефаноўваліся яны так часта, нібы не маглі жыць адзін без аднаго. Наша дачка Алеся, калі брала слухаўку, ужо па голасе ведала, што гэта «дзядзя Грыша» тэлефануе. Яна часта так і казала: «Тата, цябе дзядзя Грыша». Зрэдчас: «Мішачкін, табе Грышачкін тэлефануе!» Грышу гэта вельмі падабалася, ён смяяўся з гэтага. Прычым яго цікавіла літаратура ўсё, а Міша мог стрымана спытацца: «Як Валя? Як Ілона?» Толькі аднойчы, памятаю, прыходзіць дадому і расказвае, што сустрэў у трамваі Грышаву дачку Ілону, якую не бачыў ужо гадоў дванаццаць, але дужа ўжо падобная на Грышу дзяўчына была. Міша нават Барадуліну пазваніў і ўсё распытваў: «У Ілонкі такая вось куртачка, такі капялюшык і каса заплеценая?.. Дык я вылічыў яе! Яна на цябе дужа падобная!»

Між сабой яны называлі мяне «малая», бо ў параўнанні з іншымі жонкамі я была самая маладая, хоць з Мішам у мяне невялікая розніца — восем гадоў, знешне гэта было незаўважна, але ўсе лічылі, што ў Мішы маладая жонка, таму і — «малая». Міша звычайна так і распавядаў Грышу: «"Малая" сказала тое... "Малая" сказала сёе...». Рыгор у адказ: «Я табе кажу: купі магнітафон, хадзі за ёй і запісвай, а пасля перакладай на паперу!»

Грышу цікавілі літаральна ўсе Мішавы справы. Яму, напрыклад, вельмі хацелася, каб у Мішы быў спартыўны касцюм. Мо таму, што тады прынята было, што калі едзеш у санаторый, у Дом творчасці ці кладзешся ў бальніцу, абавязкова павінен быў узяць сіні спартыўны касцюм, у наборы якога былі штонікі з лямкамі ўнізе і куртачка з белымі палоскамі на рукавах. Гэта быў савецкі шык, які нам з Мішам быў не па кішэні, але Грыша сам набыў і падараваў Мішу такі касцюм.



Міхась Стральцоў з Рыгорам Барадуліным і Уладзімірам Кудзінавым. 1986 г.



Міхась Стральцоў з жонкай Аленай і дачкой Алесяй. Дом творчасці «Караліšчавічы», 1978 г.

У Мішы і бародка-«эспаньёлка» нейкі час была, як у Грышы. Нават гаварылі: «Дзе Барадулін? Дзе Стральцоў? — зразумець не можам!» Яны знешне падобныя былі — абодва насаценькія, з «эспаньёлкамі» і выглядалі дакладна як браты. Прычым ім вельмі падабалася, што іх блытаюць!.. Але аднойчы вяртаюся з працы, а Міша — паголены.

— Што здарылася? — пытаюся.

— Таму што ты хітрая.

— І чаму гэта я хітрая?

— Вячэраем учора з Алесяй, і яна кажа: «Тата, наша мама такая хітрая! Яна ўвесь час табе гаворыць, што ёй даспадобы твая бародка, але калі б бародка была чорненькая, а не беленькая... — Слова «сівы» Алеся яшчэ не ведала. — І ты побач з ёй выглядаеш не як яе муж, а як яе тата. Ты згалі бародку, калі ласка».

У выніку Міша пагаліўся. А мне ягоная бародка сапраўды вельмі падабалася, бо была яму да твару.

Яны ж удваіх пайшлі і на Алесін выпускны, калі яна скончыла першы клас. Я не змагла быць, бо працавала, дык Міша з Грышам прыйшоў. Рыгор падараваў тады нашай дачцэ гадзіннік з выявай Карлсана, і ўсе разам пайшлі ў дзіцячую кавярню, дзе Алеся замаўляла ўсё, што хацела. Яна, відома, была ў захапленні і пасля нават прызналася: «Ведаеш, мама, часам я не разумею, хто мой тата — дзядзя Грыша ці мой тата? Абое яны як два маіх таты».

А з гэтай гісторыі я дужа потым смяялася. Яны паехалі выступаць на Ушаччыну, дзе завіталі ў мясцовы ўнівермаг, адкуль Міша і патэлефанаваў мне (а трэба сказаць, што набыць у той час імпартныя рэчы было дужа складана):

— Нас з Грышкам пусцілі на склад, дык мы вам з Валькай набылі сукенкі і калготкі з воўны.

Але я ведала, што Міша не тое, што маіх — сваіх памераў не ведае, таму запыталася:

— А якога памеру?

— Зараз пачытаю... Калготкі: рост 170, памер 52...

А ў мяне ў той час быў 46-ы, у Валі 44-ы.

— Міша, мне яны з маім ростам будуць да самага носа, а Валю вы як у мех з бульбай пасадзіце, дый яшчэ зверху завяжаце!.. А сукенка якога памеру?

— Мы вам аднолькавыя набылі!

— Але ж мы не аднолькавыя з Валяй!..

Нават не памятаю, што мы з гэтым усім пасля рабілі. Праўда, такі клопат пра нас з Валяй яны праявілі толькі аднойчы...

А як быў рады Грыша, калі ў Мішы нарадзіўся сын, як ён віншаваў! Яны абодва радаваліся і ўсё прыгаворвалі: «Хлопчык, хлопчык!..» Усе былі тады рады — і Алесь Адамовіч, і Іван Антонавіч Брыль...

Зрэшты, яны радаваліся за Мішу і тады, калі мы з ім пабраліся шлюбам, бо ён ужо літаральна гінуў: ён быў у такім жахлівым стане, што калі мая мама ўпершыню ўбачыла яго, яна страціла прытомнасць ад аднаго яго выгляду... Ягоныя сябры даўно мне гаварылі: «Ён гіне... Ён цябе кахае...» Але я адказвала: «Я не Крупская, я не здольная перавыхоўваць»... Калі б не гэтая вядомая ягоная слабасць, я, напэўна, да самай смерці на «вы» яго называла б — такое ў мяне было да яго паважлівае стаўленне.

Але, апроч усяго іншага, у Мішы была на дзіва вар'яцкая інтуіцыя: калі толькі ўбачыў нашае немаўля, ён заплакаў. Заплакаў і сказаў:

— Ці геній будзе, ці рана загіне.

— Міша, ну што ты такое кажаш!..

— У яго старэчыя вочы. З такімі вачыма дзеці не жывуць... Ці вырастаюць геніямі, што таксама дрэнна...

І Міша не памыліўся — наша першае дзіця загінула ад алергічнага шоку, яму было каля чатырох месяцаў...

Дарэчы, мы ж разам з Грышам адвозілі ягоную дачку Ілону ў радзільны дом. Калі яна была цяжарная, яны з мужам здымалі кватэру ў Серабранцы. Ілона пазваніла мне гадзіны ў тры ночы:

— Цёця Лена, у мяне схваткі.

— Ілоначка, зараз бяру таксі і еду. А ты тату патэлефанавала?

— Так.

Але на ўсялякі выпадак і я пазваніла, Грыша ў адказ: «Я таксама еду!» Аднак я прыехала раней, і калі ўвайшоў Грыша, якраз з'явілася «хуткая». І ў радзільным доме першымі павіншавалі нас з Грышам: «Віншуем, бабуля і дзядуля, у вас унучка!» Мяне прынялі тады за Грышаву жонку... Дадому таксама вярталіся разам: ішлі пехатой і гаварылі-гаварылі — і пра Мішу, і пра ўсё на свеце...

Грыша па першым часе нават баяўся браць маленечкую Дамінічку на рукі. Памятаю, як аднойчы схіліўся над ёй і сказаў: «Ай, такая малая! — І дадаў жартам: — Але чыста з мяне ўсё выцягне!»

...Ужо калі з Мішам здарылася гэтая бяда, Грыша ўвесь час пісаў яму... І калі Міша нарэшце дадому вярнуўся, дык па-ранейшаму тэлефанаваў яму, і не толькі таму, каб прачытаць новыя вершы, — ён баяўся, што Міша сарвецца. І калі я здымала тэлефонную трубку, кожнага разу пытаўся: «Лена, не браў?.. Ой, добра-добра!..» Ён па сабе ведаў, што гэта такое — сарваўца. Тым больш, што былі людзі, якія вельмі хацелі, каб так яно і адбылося...

І потым, калі, сур'ёзна захварэўшы, Міша патрапіў у бальніцу, Грыша — які практычна ні да каго ў бальніцу не хадзіў, бо проста містычна баяўся тых лякарняў, — кінуў усе свае страхі і забабоны і прыйшоў да Стральцова...

І калі Міша паміраў... Я дык не памятаю гэтага, бо знаходзілася ў нейкай прастрацыі, толькі Міша быў у мяне ў галаве, але ўрачы потым распавялі... Тады ў вестыбюлі шмат ягоных сяброў і калег сабралася: Іван Антонавіч Брыль, Віктар Карамазаў, Анатоль Кудравец, Карлас Шэрман — усіх не прыгадаю. Былі і Грыша з Валяй. А ў Мішы ўжо не засталося сіл, каб з кімсьці гаварыць. І калі я пералічыла, хто прыйшоў, ён сказаў: «Паправіся прабачэння і скажы, што я не ў стане нікога прыняць, толькі Івана Антонавіча і Грышу»... Я выйшла з палаты, калі прыйшоў Брыль — ці мала якія пытанні яны хацелі абмеркаваць. Хоць Міша і сказаў: «Ты мне не замінаеш. Калі ласка, не сыходзь». А калі зайшоў Барадулін, я пайшла праводзіць Івана Антонавіча. Дасюль памятаю, што ён сказаў мне на развітанне: «Вы ведаеце, Лена, любы мужчына, калі ў яго ёсць стасункі з жанчынай, як бы яны ні складваліся, абавязаны гаварыць пра жанчыну добра. А тое, што мне зараз казаў пра вас Міша, гэта вышэй за ўсялякія ўяўленні пра добрыя чалавечыя стасункі...»

Ужо калі Міша памёр, я апынулася ў жахлівым становішчы, бо грошай на пахаванне не было — я ўсё аддала ўрачам. А трэба ж было Мішу не толькі пахаваць, але і апрануць па-чалавечы, бо калі ён клаўся ў бальніцу, у яго быў 54-ы памер, перад смерцю ж гэта быў ужо 44-ы (хоць я так і не адважылася набыць такі дзіцячы памер — набыла 48-ы)... Мяне тады вельмі падтрымаў Грыша, бо менавіта ён сабраў з пісьменнікаў грошы, якіх хапіла не толькі на пахаванне, але і на памінкі, і на 9, і на 40 дзён, нават на першую гадавіну засталося... І калі Мішы не стала, Грыша па-ранейшаму тэлефанаваў, прычым быў адзіны, хто мне тады тэлефанаваў і пытаўся пра мяне, пра Алесю — ёй жа зрабілася дрэнна, калі Мішу хавалі, яна вельмі любіла бацьку і дужа цяжка перажыла яго смерць; да 16 гадоў гэтую тэму ў нашым доме нельга было чапаць...

Барадулін не пакінуў нас ні тады, ні пасля. Не пакінуў практычна да апошняга свайго дня. Я ж была ў яго ў гасцях напярэдадні — 1-га сакавіка, а 2-га ён памёр. Гэта былі апошнія дні Масленіцы, і я напякла блінчыкаў з курыцай і капустай і паехала да Барадулiных. Мы вельмі добра тады пасядзелі. На наступны дзень я вырашыла іх не турбаваць, а назаўтра раніцай прачытала, што Грышы няма...

У апошнія гады я даволі часта бывала ў Барадулiных і неаднойчы распавядала пра нашае з Мішам жыццё. І Грыша не раз казаў: «Табе трэба напісаць кнігу пра Мішу. Я падумаю, хто б мог гэта зрабіць». І прапанаваў звярнуцца да Міхася Скоблы.

Рыгор жа напісаў вялікае эсэ пра Мішу «Конь гуляў па волі...», дзе заўважыў, што «калі ўжо замінае чалавек, дык і жонка ягоная не такая», тады «кідаюцца камяні ў яе». І дадаў: «...ніколі не бачыў я такіх выплаканых, да паветра, вачэй, як у жонкі Міхася Алены». А я дык не памятаю пахавання... Памятаю толькі сонечны свет, калі хавалі... Грыша, канешне, за мяне заступаўся і тады, і пасля. І Мішу нават пасля смерці імкнуўся абараніць...

Зрэшты, Стральцоў быў варты такога высокага заступніцтва, бо быў светлым чалавекам. Калі ўпершыню яго ўбачыла, у мяне было ўражанне, што ў яго німб над галавой. Дасюль памятаю: ён адчыніў дзверы, у акно зззяла сонца, і я абсалютна выразна ўбачыла ў Мішы німб. Я яшчэ падумала: «Які прыгожы гэты німб!» Але доўгі час нікому пра гэта не гаварыла, бо думала, што не павераць. Першаму Грышу расказала...

**Літаратурны запіс Сяргея Шапрана.**

**Фота з хатніх архіваў Міхася Стральцова і Рыгора Барадуліна**



Міхась Стральцоў, Генадзь Бураўкін, Анатоль Грачанікаў, Раман Тармола, Васіль Сідарэнка, Іван Шальманаў, Мікола Маляўка і Рыгор Барадулін у гасцях у Міхаіла Ісакоўскага. Масква, 1964 г.

# Алесь Лютыч: Эксперыменты з дзяўчатамі мы будзем працягваць!

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Праект гурта «:B:N:» «Рок'н'гёрлз», прэзентаваны нядаўна, хоць і меў поспех, але выклікаў пытанні слухачоў. Пра «фемінізацыю» творчасці «:B:N:» і будучыя планы мы паразмаўлялі з лідарам гурта Алесем Лютычам.**






***— Алесь, слухачы ведаюць, што супрацоўніцтва з вакалісткамі — не навіна для вашага гурта. Але ці можна назваць праект «Рок'н'гёрлз» паказальным для далейшага гучання «:B:N:», ці гэта спантанная творчая ініцыятыва?***

— Калі прыгадаць гісторыю гурта, дык мы ніколі не спявалі з дзяўчатамі на канцэртах так, каб яны рабілі гэта па-свойму. Раней у нас было два дуэты, але дзяўчаты спявалі нашы песні і ў нашай рок-манеры, так бы мовіць, пад нас. Успомнім, да прыкладу, дуэт з Яўгеніяй «Пчолкай» Хіло ці з Кацярынай Мураталай ака «Радыстка Кэт». А ў выпадку з праграмай праекту «Рок'н'гёрлз» дзяўчаты выконвалі нашы песні ў звыклай для іх стылістыцы — як яны гэта чуюць і хочуць выконваць.

Папросту нам цікава, як будуць гучаць нашы кампазіцыі ў іншых аранжыроўках, з іншым вакалам і інтанацыямі, як зменіцца ўспрыманне іх публікай. У выніку мы ўбачылі, што такія дуэты з беларускімі дзяўчатамі-вакалісткамі публіцы спадабаліся, і гэтыя эксперыменты ў рамках гурта «:B:N:» мы будзем часткова працягваць.

**Папросту нам цікава, як будуць гучаць нашы кампазіцыі ў іншых аранжыроўках, з іншым вакалам і інтанацыямі, як зменіцца ўспрыманне іх публікай. У выніку мы ўбачылі, што такія дуэты з вакалісткамі публіцы спадабаліся**

**Ідэя запрасіць сесійных вакалістак на запіс нашага новага альбома пакуль у стадыі абмеркавання. У нас падрыхтавана ўжо шэсць кампазіцый, і літаральна праз пару дзён мы збіраемся ў студыі, каб пачаць запіс першых дзвюх. У сакавіку-красавіку пачнём кампанію па «раскрутцы» альбома: спачатку прэзентуем сінгл**

***— Алесь, а як жа сумяшчалася вакальная манера гэтых спявачак з рок-гучаннем гурта «:B:N:»?***

— Мы ўлічвалі вакальныя асаблівасці дзяўчат і падладжваліся пад іх вакальныя прыхільнасці. Напрыклад, спявачка Берта аддае перавагу джазаваму выкананню. І таму кампазіцыю «Крок за крокам» мы перааранжыравалі, дадалі элементаў імправізацыі — карацей, зрабілі яе гучанне больш-менш джазавым.

Наступная ўдзельніца праекту — Наста Шпакоўская. Яе выканаўчая манера адрозніваецца драматычнасцю, бо яна сама тэатральная акторка. Для сумеснага з Настай выступу мы зрабілі эксперымент: у нашу песню «Палюсы» мы ўставілі фрагмент песні гурта «Naka» «Бяжы». Атрымаўся вельмі эмацыйны і захапляльны песенны мікс, які выклікаў шмат добрых водгукаў слухачоў.

Паліна Рэспубліка, якую мы таксама запрасілі да ўдзелу ў гэтым праекце, паказала сваё бачанне нашых песень: заспявала адну з кампазіцый «:B:N:» у больш сучаснай, моднай аранжыроўцы, з перавагай «сінтэзаванага» электроннага гучання.

Яшчэ адзін дуэт мы зладзілі з маёй настаўніцай па вакалу Таццянай Трухан, якая рыхтуе ўдзельнікаў дзіцячага «Еўрабачання». У Таццяны выдатны голас, які пасуе рок-гурту. Сведчаннем гэтаму можна назваць той факт, што Таццяна спявала на бэк-вакале ў гурта «Scorpions» падчас яго сусветнага туру. Кампазіцыя «Нас няма» з альбома «Крок за крокам» з вакалам Трухан, дзякуючы яе прафесіяналізму, набыла шчырыя, пранізлівыя ноты. Пад яе голас мы гэтую кампазіцыю выканалі пад фартэпіяна, без гітар і бубноў, каб песня стала больш лірычнай і душэўнай.

***— Ці будуць гэтыя вакалісткі ўдзельнічаць у запісе вашага новага альбому?***

— Ідэя запрасіць сесійных вакалістак на запіс нашага новага альбома пакуль у стадыі абмеркавання. У нас падрыхтавана ўжо шэсць кампазіцый, і літаральна праз пару дзён мы збіраемся ў студыі, каб пачаць запіс першых дзвюх. У сакавіку-красавіку пачнём кампанію па «раскрутцы» альбома: спачатку прэзентуем сінгл.

Калі будуць гатовыя дзевяць-дзесяць трэкаў, мы пяройдзем да стварэння канцэпцыі, зоймемся чаргаваннем трэкаў і назвай нашага новага альбому. Мы плануем, што гэтая кружэлка стане больш разнастайнай стылістычна: у ёй будзе і лірыка, і гітарны драйв, і рок-н-рол, нават духавыя інструменты, якія мы плануем увесці ў некаторыя песні. Магчыма, нешта з'явіцца і з фальклорных апрацовак.

***— Ці будзеце запрашаць да ўдзелу вашага знакамітага калегу А.Мацулевіча (Tony Fadd), які ў мінулым годзе стаў адным з намінантаў на музычную прэмію «Грэмі»?***

— З Антонам мы сябруем, супрацоўнічаем — запрашалі яго на канцэрт праекту «Рок'н'гёрлз». Пэўна, у дадзены момант у Антона шмат працы за акіянам: то ў Амерыку лётае, то зноў у Беларусь — да сям'і. Але ў нас ёсць планы на сумесную працу ў галіне прадзюсавання, але толькі ў выпадку, калі ў Антона з'явіцца вольны час, і ў яго будзе цікаўнасць. Трэба разумець, што чалавек ён заняты, і ўсё будзе залежаць ад яго графіка і нашых планаў.

***— Сёння вы, Алесь, упершыню выйшлі на клубную сцэну ў якасці рок-барда. Бадай, гэта першы выпадак вашага сольнага выступу. Слухачам спадабалася. Ці чакаць працяг серыі акустычных канцэртаў і сэтаў?***

— Так, гурт «:B:N:» будзе эксперыментаваць і акустычна. Сёння мяне запрасілі даць невялічкі акустычны канцэрт, але без музыкантаў гурта «:B:N:». Амаль упершыню на сцэне я знаходжуся толькі са сваёй гітарай. Адчуваю сябе гэткім бардам Алесем Лютым ці Аляксандрам Февральскім (усміхаецца).

Да таго ж, 4 сакавіка ў клубе «Графіці» адбудзецца наш акустычны канцэрт у поўным складзе. Мы выканаем нашы старыя хіты, таксама будзе нешта з новага музычнага матэрыялу. Шчыра запрашаем!

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але атрымаць «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо проста патэлефанаваць у рэдакцыю (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём).

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл., код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Таксама можна атрымаць газету ў нашым офісе і ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр.

Кошт аднаго месяца — **3 рублі 20** капеек, **квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 158

Падпісана да друку 17.02.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.